№ 9—10. Цана 10 мар.




Зьмест нумару:



# БЕЛАРУСЫ!

**Хто хоча незалежнасьці нашае Бацьушчыны,**

**у кім бьецца беларускае сэрцо, каму неўмагату зьдзек чужынцаў, хто можа трымаць у руках стрэльбу—**

**запісвайцеся у беларускае войско!**

*Беларуская Вайсковая Камісія.*

**Запіс у Беларускай Вайсковай Камісіі, готэль „Гарні“, рог Фэліцыянскай і Міцкевічавай вул.**

## Ад Рэдакцыі „Рунь“.

Рэдакцыя «РУНІ» шчыра просіць сваіх чытачоу і прыхільнікау прысылаць ей фотографіі і рысункі беларускіх тыпау, весак, дварОу, замчышчау, мястэчак, гарадоу, гістарычных памятнікау, а так сама—фотографіі беларускіх нацыянальных гурткоу, сходак, кірмашоу, аматорскіх беларускіх тэатрау і г. д. Кожная фотографія ці рысунак павінны мець апісаньне: дзе калі і кім зроблены (ці сабраны), а так сама назву мясцовасьці і тыпау (якой губэрні павету, воласьці).

Усе прысыланае, ца надрукаваньні у «РУНІ», будзе з вялікай падзякай зьвернуто уласьнікам.

## Ад выдавецтва тыдневіка „Рунь“.

**Важна для тых, што друкуюць у часопісях свае абвесткі.**

Ад 6 чэрвеня г.г. ілюстраваны беларускі тыднeвік «Рунь» выходзіць у павялічаным удвойчы ліку страніц і з вокладкай. Дзеля гэтага прымаюцца на вокладку тыдневіка «Рунь» АБВЕСТКІ. Абвесткі будуць друкавацца толькі у беларускай мове.

Цана абвестак: за радок пэтыту на першай страніцы вокладкі—10 мк., на 2-й і 3-й стран.—6 мк., на 4-й стран.—8 мк.

Пры заказе на абвестку павінно быць абавязкова абазначано: разьмер абвесткі (лік радкоу), на якой страніцы, колькі раз друкаваць і подпіс заказчыка.

# Беларускіе прыказкі.

1. Абы галава, то шолудзі будуць.
Абы карыто, а сівіньні будуць.
Архіп нашаму бацьку родны Хвёдар.
Без правадыра войско гіне.
5. Благая пуга лычная, а без яе горай.
Багат Андрэй: поўна хата дзяцей.
Багаты грошы зьбірае, а чорт машну шые.
Багаты дзівіцца, чым худак жывіцца.
Бог болей мае, чым нам пасылае.
10. Баязьліваму і страх здаецца.
Баіцца ён цябе, як воўк ягняці.
Бывала буяло, а цяпер і рыкаць ня хоча.
Бывалаківало, а цяпер і не варушыцца.
Бяда, як дуда: пачнеш дуць, аж сьлёзы набягуць.
15. Бяда дзеду бяз бабы,—ядуць вошы да схабы.
Вялікі дуб, але дуплаваты.
Вольнаму воля, а спасёнаму рай.
Воўка зубы кормяць.
Восень кажа: «жыто раджу», а вясна кажа: «яшчэ [illegible]»
20. Усякі цыган свайго каня хваліць.
Усяго не перан[illegible], што па вадзе плыве.
Ведаў Бог, што не даў сьвіньні рог.
Высока [illegible], да зьнізу не падпёр.
Высока [illegible] да зьнізу не падмураваў.
25. Дзе [illegible] там дзіця бязнога.
Дзе гноем сьм[illegible]дзіць, там збожжо радзіць.
I Бога хва[illegible] чорта не гняві.
I рыбы ня хочу, і хваста ня ўмочу.
Каб ня клін да ня мох, даўно-б цесьля здох.
30. Каб ня дзірка ў роце, хадзіў-бы ў залоце..
Каб ня ежа да не адзежа, то апух-бы лежа.
Кінь за сабою, знойдзеш перад сабою.
Калі дало рабіць, то дасьць і спажыць.
Калі ня кракала варона, угору лятучы, то ўніз і пагатоў.
35. Калі ня вераць—не бажыся, калі бьюць—не прасіся.
Калі топішся, то й за брытву хопішся.
Калі ў хляве плодзіць, а на ніве родзіць, то й дурань хату водзіць.
Калі ня выліняў конь да Яна,—няхай ідзе да другога пана.
К Пятру хлеба хіба зьмяту.
40. З Петры хлеба што ў вядры, а на Ільлю поўну печ нальлю, а як прышоў Спас,—будзе хлеба з нас.
Першы гнеў лепшы, а апошні горшы.
Покі слонцо ўзыйдзе, раса вочы выесьць.
Лісьлівае цялятко дзьве маткі сьсе, а нягоднае—ніводнае.
Лепш пакланіцца манарху, чым якому парху.
45. Марац прымарозіў палец.
Маім салам ды па маёй шкуры мажуць.
Грай на веру, а пішы на сьцену.
Грошы камень куюць.
У паноў не атлас, а пот ад нас.
50. Гэта кулік вялікага балота.
Даў Бог дзеці, да няма куды дзеці.
Даў Бог цяля, да няма хлява.
Жывучы усяго нажывеш, і Кузьму бацькам назавеш.
Значан сокал па палёту, а сава па воку.
55. Здаўся на прыказкі, як сабача шкурка на прывязкі.
За дурным Бог.
За вачыма сьвету ня бачыць.
Да пары збан воду носіць,—покі вушко ёсьць, а як вушко абарвецца, так і збан пабьецца.
Дзе цакачаецца скацінка, там застанецца шарсьцінка.
60. Дзе гаратай плача, там жняя скача.
Дзе цьвет, там і мед.
Да Пятра—з макатра, па Пятру—з макатру.
Датуль пападзьдзя княгіня, пакуль поп ня згіне. Да Юр'я сено і ў дурня.
65. Доўг не раве, а спаць не дае.
Дудар не гаспадар, стралец—дома ня жылец, а рыбак—той саўсім небарак.
Гні дрэўцо, покі гнецца.
Голы, як біч, а гуляка, як сабака.
Гордага Бог з неба сьпіхае.
70. Горка рэдзька, да ядуць, кепска замуж, да ідуць.
Горка пі, салона еж,—і памрэш, ня згніеш.
Хто мае вісецi, таму не ўтануці.
Пры згодзе сам Бог рад жыве.
Хто ў жніво халадку шукае, той узімку галадае.
75. Ня зыч ліха другому, каб не давялося самому.
Пытае люты, ці добра абуты.
На месцы і камень абрасьце.
Як нажывеш, так і спажывеш.
З вялікай хмары дождж бывае малы.
80. Да сьвятога Духа ня скідаў кажуха, а па сьв. Дусе у тым-жа кажусе.
Май валом дай, сам на печ упякай.
Калі есьць ў каліце то есьць і ў пана на куце.
Калі вядзецца, то й на шчэпку прадзецца, а як не, то й на верацяно ня йдзецца.
Як жыд хрышчоны, так конь лячоны—нямнога варты.
85. Жыд хрышчоны, конь лячоны нямнога варты.
Папусьціся ў малому, пападзешая ў вялікаму.
Каго няшчасьце імецца, таму усюды наварзецца.
З сыці сабака шалее.

(Гл. 3-цю стр. вокладкі).

Цана сшытку 10 м.
Падпіска:
на 1 м-ц з перасылкай 20 м.,
на 3 м-цы 60 м.

# РУНЬ

БЕЛАРУСКАЕ ЛІТЭРАТУРЫ і МАСТАЦТВА.
Выходзіць у Менску штотыдзень.

Год выд. I.
№ 9—10
4 ліпня 1920 году.

## Арцём Дарэускі-Вярыга.

Арцём Дарэўскі-Вярыга быў родам з Вітабшчыны. Жыў у першай палове XIX ст. Як сьведчыць А. Кіркор („Живописная Россія", III. 327), лепшые з яго твораў: «Гутарка з пляндроўкі па зямлі латыскай», «Паўрот Міхалка», «Быхаў» і інш. Ні адзін з гэтых твораў, відочна, нігдзе не друкаваўся; мы навет у рукапісу нідзе іх не спатыкалі, так сама і перакладу «Конрада Валенрода» Міцкевіча, аб якім Кіркор гаворыць, што ён ня быў друкованы, але пашыраўся ў рукапісу. Бясспорна, ёсьць два рукапісы Дарэўскага-Вярыгі: 1) «Літвіном, запісаўшымся у мой Альбом на пажаганьне» (Вільня 1858 г.); пачынаецца словамі:

Братцы, братцы! Што мне стала?
Я тры дні у вас шляўся...

2) «Dumka chłopka z okolic Witebska na odgłos wolnosci» (1858 г.); пачынаецца словамі:

Сьвеціць сонцо, сьвеціць сонцо!

3) Есьць яшчэ значны адрывак аднаго яго верша, датычачага Кіркора, надрукованы праз Р. Зямкевіча:

Адаська, родны Адаська!
Як мы цешымся з цябе! і г. д.,

гдзе хваліцца праца Кіркора па ўстройству ў Вільні Музэю.

Дзеля таго, што да нас дайшло не багата літэратурнага матэр'ялу нашага аўтора, аб яго таленце прыходзіцца судзіць па ад'зывах аб ём яго сучасьнікаў, якіе захаваліся ў Альбоме яго*). Тут маюцца лісты і вершы У. Сыракомлі, Н. Караткевіча, А. Кіркора, В. Каратынскага, Я. Т-кага, пр. Вуля, А. Хадзцкага, В. Дуніна-Марцінкевіча, А. Рыпінскага. На аснове таго, што гаворыцца ў Альбоме, можна думаць, што А. Дарэўскі-Вярыга быў жаданым гасьцём ў тагочаснай беларускай шляхты, як прадстаўнік яе думак і жаданьняў. Любіў ён, як відаць, і народ. Але каб судзіць аб яго літэратурнай здольнасьці мы ня маем досыць матэр'ялу.

**Е. Карскі.**

*) Гл. «Беларусь» 1919 № 50.



Арцём Дарэўскі-Вярыга.

З гадоў няволі.

## ТРЭНЫ.

*Беларускі , мой радзімы, краю,*
*Чым ты стаўся горшым перад сьветам,—*
*Строгім гэтым,*
*Цяжкім лёсам ён за што цябе карае,—*
*Забівае?*

*Скрозь пажэжа, пусткі і руіны,*
*Скрозь нядоля, голад і галота,*
*Скрозь стагнота.*
*Тут—што людзі!—ў полі кожная быліна*
*Сіраціна.*

*Падрабнеўся твой народ на часьці,*
*Зносіць ён благое ліхалецьце*
*Па ўсім сьвеце,*
*Апынуўся дзе раскіданы няшчасьцем,*
*Злой напасьцяй.*

*Перад гэтым быў ты, край, багаты,*
*Меў лясы, бязьмежные як моро,—*
*Горо, горо!..*
*Павыгублено ўсё. Дзе людзі, дзе гарматы*
*Спраўцы страты.*

*Дык прызнайся-ж мне, радзімы краю!*
*Завініўся чым ты перад сьветам:*
*Гневам гэтым*
*На цябе нялюдзкім ён за што палае,*
*Так карае?*

Зіма 1916 г.

**А. Гарун.**

# Абразкі з жыцьця Палесься.

(Гл. № 7—8).

———

## 23. Перацяг.

Сонцо чуць усходзіло, калі мы пад'ехалі да рэчкі.

Ад ракі шоў туман, падымаючыся ўгару; недзе жаласна пішчэлі кнігаўкі, пераклікаліся кулікі ў зялёных сітнягох, чырыкалі качкі, а ім усім дапамагалі, вельмі стараючыся, жабы. Над ракой стаяў такі гвалт—быццам на кірмашы.

Яўхім, застанавіўшы каня, зьлез з воза, пералжагнаўся, зьняўшы шапку, на сонцо, агледзіўся і прагаманіў:

— А Базыль на тым баку, трэба будзе доўга крычаць, пакуль яго даклічашся. І ён, не марнуючы часу, гукнуў,

— Базыль-ль! Давай перацяг!

Доўга крычаў Яўхім, але з таго боку ракі ня было ніякага адказу, толькі мацней пачалі крычаць кулікі ды жабы часьцей кракталі ў балоце.

— А, каб вас агонь папаліў!—разззлаваўся на іх Яўхім,—сьціхніце, праклятые! Але тые ня думалі сьціхаць і яшчэ большы падьнялі кірмаш.

— Базы-ы-выль!!!—цягнуў Яўхім, нагнуўшыся да вады. Урэшце, з другога боку, аднекуль, з туману паказаўся перацяг і з яго пачуўся голас:

— Чаго ляпу разьзявіў? Бога не баішся!

— А ты чаго не адгукнуўся?—гукнуў Яўхім да голасу з туману.

— Адгукнуўся!—адазваўся той, перадразьніваючы Яўхіма,—а ты нешта ня чуеш, што ўсялякае стварэньне з сонца радуецца, Бога хваліць, а ён пражэцца ня ведама чаго.

Праз хвілю мы былі ўжо на перацягу і ціха плылі.

Базыль быў зусім сівы, высокі, худы, ён сваім тварам прыпамінаў мне сьвятога Міколу. Моцна цягнуў ён касьцістай рукой бярозавы канат; увесь ён як-бы прыслухіваўся да гоману, які стаяў над ракой.

— Ось, чуеце,—пачаў Базыль,—як Божа стварэньне цешыцца з сонца і жыцьця,—на розные галасы яны вітаюць дзень. Усялякая птушка, усялякі жучок, усялякая жабка пасвойму падае голас радасьці.

— Але чаму ты не ад'зываўся?—сярдзіта перабіў яго гутарку Яўхім.

— Не адазваўся, не адазваўся!—накінуўся на яго Базыль:—А ці магчыма мяшаць стварэньню Божаму, калі яно моліцца? Магчыма? А? Нябойсь маўчыш, бо ведаеш, што ня можна; ну, дык ось і не адазваўся!—скончыў ён ды зноў увесь прыслухіваўся да галасоў прыроды.

Хутка мы зноў цягнуліся з Яўхімам па грэблі, пакінуўшы старога Базыля прыслухівацца да гоману Божага стварэньня.

— Ну, ось і рабеце з гэтакім чалавекам, што хочаце,—загаманіў Яўхім.

— І заўсёды ён гэтакі?—запытаўся я.

— Заўсёды!

І мы абодва замоўклі, як-бы баючыся памяшаць стварэньню Божаму, што паўсюды наўкола нас малілося.

## 24. Божая кара.

Віхор круціў пыл па дарозе, падымаў яго высока ўгару, пасьля кідаў дробным дажджом на зямлю. З заходу паўзла вялізарная чорная хмара, ад якой чуўся цяжкі, яшчэ далёкі, рогат Пяруна. Усё бліжэй, бліжэй насоўвалася хмара, заціх вецер на хвілю, дрыжэлі бярозы; раптам зноў закруціў віхор, засьвісьцеў і панёс хмары пылу і пяску на вёску, што прытаіўшыся замёрла каля самага лесу.

Людзі чакалі буры. Набожные зацяпілі перад абразкамі грамніцы і ціха шапталі: «Божа, ратуй! Божа, пранясі!»...

Ось чорная хмара ўсё небо закрыла. Маланкі мігацяць, грахоча Пярун. Трашчаць, ломяцца апаленые дубы і бярозы. Людзі, гледзячы праз вокны хат на небо, набожна жагнаюцца і пацеры шэпчуць. З нейкай хаты вышаў сівы дзед, зірнуў, на небо перажагнаўся і ціха прагаманіў: «Ня бачыў я гэтакай буры на сваім вяку; ня іначай як Божая кара ідзе... Божа паратуй і зьмілуйся!!!» Раптам страшэнна маланка сяло асьвяціла, грымнуў Пярун і з краю сяла хата агнём запаланела. Здаецца ратунку, няма. Гнеў Божы вялікі. Абамлеў ад жудасьці чалавек, ня можа жагнацца застыўшая рука... Але пачаў ліць ручаямі дождж, сьціх агонь, далей адходзіла бура, толькі вецер гарэлую салому разносіў па вёсцы.

Пасівеўшы ад страху, гаспадар жагнаўся, аглядаючы хату, ды ціха шаптаў: „Дзякуй Богу, што так абышлося, комін трохі разваліло, салому на страсе спаліло... Ну, што-ж—не бяда! Бог пакараў, Бог і паможа!».

## 25. Пажар.

Спала вёска... Месяц з неба далёкага сьвяціў. Ціхі ветрык, песьцячы лісточкі, гуляў. Людзі ня чулі бяды, а яна падкралася раптам, сярод ночы...

Што гэта? Агонь! Божа ратуй! Вёска гарыць. Усхапіліся вартаўнікі і праз хвілю над вёскай ціхай зазванілі жаласьліва званы. Бам, бом, бам!—плакаў звон...

Усхапіліся людзі, з гвалтам беглі туды, дзе усё мацней і мацней агонь разгараўся. Гарэла хата, гумно, занімалася другая. Дымам вёску заслало... З баграмі беглі людзі, цэбрамі, вёдрамі цягнулі бабы, дзяўчаты, малые дзеці ваду і лілі на агонь. Забыліся сваркі, лаянкі. Усе былі за адно—бяда скавала іх моцна цяпер. Дзеля адной мэты працуюць нія і гэта паможа, выратуе вёску. Ось агонь усё цішэй і цішэй. Зараз пагасьне зусім.

Зноў будзе ціха. Разойдуцца людзі, дзякуючы Богу, што гарэла хата ня іх, і толькі пагарэўшы гаспадар доўга будзе сядзець, галаву панурыўшы над чорнымі абгарэўшымі вуглямі хаты свае...

Не бядуй, чалавеча! Будзе хата ізноў, была-б у сілы надзея... а там «Бог дапаможа!».

Ужо зорка пачала прасыпацца і месяц схаваўся за лес. Зараз вёска прачнецца, пойдзе на працу. Мо за ночку, скрозь сон, Бог кожнаму ў вушы нашаптаў: «Грамадой тушылі агонь—грамадой бедаку дапамажэце!»

## 26. Ваўкі.

Была глухая ноч, а мы ніяк не маглі выбрацца з лесу. Конь начыста змарыўся і ледзьве цягнуў драбінкі...

— Куды там ехаць далей,—памеркаваўшы, адазваўся Яўхім,—ляпей усяго заначаваць у лесе, ды і годзі!

— «А праўда твая,—адказаў я,—давай, дзедка, заначуем, бо, праўду казаць, абрыдло ўжо ехаць.

Яўхім спыніў каня, мы зьлезлі з воза.

— Ну і ночку Бог паслаў, нічога ня відаць!—гаманіў Яўхім гдзесь каля каня. А я, каб не марнаваць часу, выцягнуў з воза пук саломы і запаліў яе, каб разгледзець добра нашае становішчо.

Хутка агонь асьвяціў невялічкі абшар дарогі, на якой стаяў наш воз, Яўхім з торбай аўса і конь, які нібы зьдзіўленна глядзеў на агонь.

Па бакох дарогі стаяў лес. Ні адна галіна, ні адзін лісток не калыхаліся. Здавалося, што цяжкай думкай заняты лес. А на небе ні зорак, ні месячыка... Глянуўшы ўверх, вочы спатыкалі цемнату, якая ад агню рабілася яшчэ больш цёмнай.

Праз хвілю салома згарэла. Згаслі апошніе чырвовые іскаркі і цемната абхутала усіх нас.

— Э, пане! чаму далі дарма згарэць саломе? трэба было гальля назьбіраць ды раскласьці агонь добры,—зьнедаволена прагаманіў Яухім.

— «Добра, дзядзька—зараз распалім агонь!—адказаў я, выцягнуў з воза саломы, запаліў і, пераскочыўшы праз канаву, назьбіраў гальля. Праз хвілін пяць прад намі гарэў добры касьцёр, прад якім мы сабраліся правесьці ночку.

— «А добрая ночка, цёплая,—працягнуў Яўхім і ў той момэнт аднекуль здалёку, данеслося „ау... у...“

Яўхім прыслухаўся, падмаргнуў мне, пасьля пакруціўшы галавой сказаў:

— Чуеце? Ось дык праява! Ваўкі!

Выцьцё зноў паўтарылося, але ўжо даволі блізка: «аў... у... у!...».

Адразу мне зрабілося зімна... Конь запырхаў і навастрыў вушы...

— Бярэце стрэльбы з воза!—Ціха, але цьвёрда сказаў мне Яўхім.

Я хутка прынёс дзьве стрэльбы і торбу з набоямі. Набіўшы мы пачалі чакаць. Ужо стало чутно не адзін воўчы голас, а наўкола нас перагуківаліся некалькі ваўкоў; тры з іх, мусіць найсьмялейшые, паселі у гушчарні маладзенькіх ёлак і адтуль пазіралі на нас. Было відаць як блішчэлі агнямі іхніе вочы.

— А ну, пугнём іх адгэтуль,—падаў раду Яўхім. Хутка два стрэлы груккнулі і пакаціліся адгаласамі далёка, далёка па лесе сярод ночы.

Стрэльнуўшы яшчэ па разоў пяць, мы ня чулі ўжо болей блізка ля сябе воўчага выцьця. Яно даносілося да нас аднекуль здалёку, здалёку, такое жаласьлівае, што мне навет зрабілося іх шкода.

## 27. Кальск.

Ужо сонца праменьні гулялі ў кроплях расы на лістох дрэваў,—калі мы, пасьнедаўшы, крануліся далей у дарогу.

Мы едзем і едзем і здаецца нам, што канца ня будзе гэтай язьдзе. Цягнешся то скрозь цёмны лес, то праз балоты, зноў праз лес, зноў праз балоты, а думка ў галаву прыходзе сама: чым-жа тутака людзі жывуць, калі поля ня відно? А людзі жывуць, жывуць і як црывольна! Погляд у іх сьмелы і моцная рука...

Ось, бачыш, далёка, гдзе здаецца балотку канец, чырвоная страха скрозь галіны блішчыць... Што гэта? Гэта Кальск. Праз гадзіну будзем мы там. Зара грэблі канец, пойдзе пясок, мінём апошні лясок і пойдуць палі, тутака і будзе Палесьсю канец...

Ось мы ўжо і ў Кальску. Выпраг Яўхім каня, а я хаджу па вялікім садзе. Каля пустога вялікага дому, ліпы старые шумяць, забіты вокны, скрозь іх нічога ня відаць... Нехта ідзе высокі худы, падазронна вочы глядзяць з-пад сваіх брывоў.

— Добры вечар!—здымаю я першы перад ім шапку.

— Вечар добры!—адказвае:—Адкуль самі, ці здалёку?—пытае.

— А як вам, пане дабрадзею, сказаць,—адпавядаю я,—здалёку, ці не здалёку, але ад раніцы едзем і ось тутака прымушаны адпачыць.

— Што ж, добра, дык прашу да мяне ў хату,—адказвае мой новы знаёмы.

— Дзякую, я ось сад аглядаю,—кажу я,—вельмі добры!

— Праўда, сад добры,—згаджаецца ён.

— А што ў гэтай хаце?—зноў пытаю.

— Эх,—уздыхае ён,—у гэтай хаце жыў вялікі чалавек—„художнік“ адзін, пэўне бачылі яго малюнкі, абразы ён усё маляваў, Катарбінскі прозьвішчо яго.

— Катарбінскі?—зьдзівіўся я:—Дык ён тутака жыў?

— Але жыў, гэта-ж студыя яго,—адказаў ён і ўздыхнуў.

— Ці ня можна было-б паглядзець яе ў сярэдзіне?—запытаўся я.

— Чаму не, але ўсё, што было у ёй, зьніштожано... Пойдзем, ключ разам са мной.

— Чаму зьніштожано?—запытаўся я.

Мы увайшлі ў сярэдзіну таёмнага дому праз вузкіе з шыбамі дзьверы і апынуліся ў вялікай залі у два прасьветы.

— Ось гэта і ёсьць яго студыя,—паказаў ён на пустые сьцены.

— Я стаяў і дзівіўся: на падлозе ляжалі паламаные рамы, рваная папера, валяліся пэндзлі, фарбы, банькі з пад аліў, ну, быццам, хто пагром вялікі учыніў у студыі маляра.

— Што дзівіцёся?—запытаў мой правадыр:—Гэтак зрабілі тые, што людзей да сьвятла да сонца вялі.

— Хто?—не зразумеў я яго.

— А яны! Тые, што рай на зямлі абяцалі!

— Аа!—уцеміў я,—дык ось вы, братачкі мае...

Я доўга стаяў, як акамянелы, і зразумець і да гэтага часу не магу, навошта дзеля шчасьця і сьвятла народу зьніштажаць тое, на чым ні раз вочы гэтага самага народу маглі-б адпачыць, адпачыць на пекным малюнку мастака?

Я вышаў адтуль з цяжкай думкай. Сонцо закацілося і заместа яго месяц сьвяціў. На высокіх ліпах пеў салоўка. Было ціха вакола. Ветрык гуляў, лісткі калыхаў. На невялічкай сажалцы, як у люстры, з неба зоркі сьвяціліся.

— Пойдзем у хату,—пазваў мой новы знаёмы мяне:—Ось тутака праз сад бліжэй!—і мы пашлі.

## 28. Зноў у лесе.

Раніцай, чуць сьвет, разбудзіў мяне Яўхім.

—Уставайце, пара! Даволі спаць, трэба ехаць!— тузаў ён мяне.

Я адкрыў вочы і запытаўся:

— Што? ужо і ехаць?

— Але, але,—бубніў Яўхім,—ужо гаспадар з сьнеданьнем чакае.

Уставаць дык уставаць, і я праз хвілю ужо сьнедаў сярод сямьі майго новага знаёмага. Добра пасьнедаўшы, я папрашчаўся з гаспадаром, яшчэ раз абайшоў Кальскі сад, а праз хвілі з-дзьве мы зноў ехалі з Яўхімам у лесе.

Прывэтна спаткаў нас лес. Скрозь шум галін весела пеялі птушкі, спатыкаючы сонцо. Зноў прад нашымі вачыма пацягнуліся дубы, сосны, елкі, грабы, бярозы, зноў прыемны сасновы дух з вялікай ахвотай уцягівалі мы у сябе.

— Ось адсюль,—сказаў Яўхім,—да Сьцяпанавай Старожкі вярстоў з трыццаць будзе, а ад яго ўжо застанецца вярстоў пяцьдзесят да чугункі,— кончыў ён гутарку і пагнаў каня.

Ехаць было вельмі добра. Лёгкі ветрык калыхаў вяршынкі дрэваў, з галін якіх сыпаліся кроплі расы. Раніца праходзіла, надходзіў дзень. А мы усе ехалі і ехалі...

Ось ужо трэці раз давалі мы адпачынак каню, калі, урэшце, сярод гушчарні арэшніку, які цягнуўся па бакох дарогі ужо з вярсту, угледзіў я нейкі дах. Не пасьпеў я запытацца, што гэта, як Яўхім сказаў:

— Ну, дзякуй Богу, і старожка Сьцяпана!

Яшчэ міг, і мы ўходзілі ў хату.

## 29. Лясьнік Сьцяпан.

З-за стала устаў к нам насустрэчу чалавек высокага росту, ў белай кашулі, з шырокім чырвоным паясом, за якім тырчаў дубальтовы пісталет.

— Здароў, Сьцяпан!—зьвярнуўся да яго Яўхім,—чаго вытрашчыў буркулы?—прымай падарожных!

— Падарожных? — прыемным голасам адазваўся той,—з вялікай ахвотай; сядайце, калі ласка,— дабавіў ён, выходзячы на сярэдзіну хаты і здароўкаючыся з намі.

— Куды Бог нясе?—запытаў ён, калі мы ўсе ўселіся за стол.

— Ды ось вязу іх на станцыю,—сказаў Яўхім, кіўнуўшы галавой у мой бок.

— Аа!—працягнуў Сьцяпан, зірнуўшы на мяне: далёка едзеце?—запытаў ён.

— У Менск,—адказаў я.

— Ось яно што! Чаго-ж так хутка уцякаеце з нашых краёў? Цяпер-жа самая прыгожасьць настае ў лесе.

— Я хутка зьвярнуся—адказаў я.

— Хіба што так,—кіўнуў ён галавой,—а то, бачыце, навет і грэх уцякаць з лесу, калі ў ім цяпер-жа толькі і жыць. Ось я, дык з яго і ня вылажу, усё ў ім сяджу, толькі дамоў есьці заходжу, дый то, адчыніўшы вакно, чую як ён шуміць і гамоне сам з сабой. Ось толькі прыслухайцеся добра, як гутарыць ён, навет другі раз здаецца, што добра разумееш, аб чым гамоне лес. Я толькі ніяк не зразумею ўсіх тых людзей, што ўвесь свой век жывуць у горадзе і навет, магчыма, ня бачылі ніколі праўдзівага лесу.

— А які такі праўдзівы лес?—запытаўся я, зацікавіўшыся яго гутаркай.

— Праўдзівы лес той,—пачаў Сцяпан гутарыць далей,—у якім будзеш хадзіць цэлы дзень і не спаткаеш ніводнага чалавека, гдзе ня ўбачыш навет і сьледу, што тутака быў чалавек. І, праўду сказаўшы, ня люблю я людзей і горо таму, каго я злаўлю з сякерай у лесе! Па майму, ляпей хай удара мяне па галаве сякерай, але не па жывому дзераву,—горача гаманіў ён, стукаючы па стале кулаком.

— Ось які ён у нас!—усьмяхнуўся Яўхім.

— Так, браток ты мой!—гарачыўся Сьцяпан: дрэвы я люблю болей, чым сам сябе і ў крыўду іх ня дам!

Доўга яшчэ гаманіў ён, нападаючы на людзей за лес. У душы я згаджаўся з ім. Вышаўшы з хаты, я сеў на ганку. Лес шумеў сваю песьню, а за дзьвярыма пагражаў Сьцяпан людзём за крыўду, якую робяць яны лесу.

Ужо сонцо зайшло і замест яго месяц сьвяціў, калі мы з Яўхімам апошні раз папрашчаліся з Сьцяпанам і крануліся далей.

— Не запамятайце вярнуцца ў лес!—крыкнуў Сьцяпан мне ўсьлед і, закінуўшы стрэльбу за плечы, згінуў у гушчарні арэшніку, а мы паехалі далей.

## 30. Чугунка.

Ужо добрая ночка была. Зоркі гарэлі на небе. Месяц ясна сьвяціў. Галіны шамацелі на дрэвах, дзе-ня-дзе крычэла сава, ціха шумеў лес...

Раптам аднекуль з далёку данёсся сьвіст.

— Што гэта там такое?—запытаў я.

— Гэта чугунку чуваць!—адказаў мне Яўхім.

— Чугунка!—мігнула думка ў мяне і жальба душу сьціснула. Хутка ўжо, хутка ня буду бачыць я цябе, дарагі мой лес! Ты будзеш тутака без мяне шумець, гаманіць свае цудоўные казкі, без мяне будзеш гудзець у буру...

Але ве, чую, што хоць буду ад цябе я далёка, край мой родны, аднак душа мая будзе разам з табой, думка мая будзе заўсёды тут, сярод гушчарні, сярод цябе, мой родны лес!... Хай панясе мяне цягнік далёка адсюль, але душа мая будзе разам заўсёды з табой, з табой, мой родны лес! Я хутка зьвярнуся да цябе, мой лес! Я толькі на хвілю цябе пакідаю! Дык чакай мяне, лес, не запамінай мяне, а я добра буду помніць казкі твае, што душу мне абнавілі. Мары заветы твае будуць вечна ў мяне ў душы.

**Дзяргач.**

(*Канец*).





Від з Палесься.

## БРАТ і СЯСТРА.

(З народнай песьні).

*Ой, у лузе, ды ў зялёным,*
*Каля быстрай рэчкі*
*Маладзенькая дзяўчына*
*Пасьціла авечкі.*

*Залатое сонцо з неба*
*Грэло, спаць гарнуло,*
*Аж пастушка у цянёчку*
*Легла і заснула.*

*Па гасьцінцы жаўняронька*
*Зьнекуль заблудзіўся,—*
*Ен к дзяўчыне маладзенькай*
*З сядла нахіліўся.*

*«Устань, галубка, мае сэрцо,*
*Годзі спачываці,*
*Кладзі ножкі у страмёны,*
*Будзем вандраваці!»*

*Уставала маладзенька,*
*Ножкі ў стрэмя клала*
*І з малойчыкам удалым*
*У сьвет вандравала.*

*Едуць поле і другое,*
*Узьехалі на трэцьце,*
*Пад дубочкам, пад махнатым*
*Селі пасядзеці.*

*Прытуліўся жаўняронька*
*Да грудзей дзявочых,*
*Абымае і цалуе*
*Губанькі і вочы.*

*Гэтак песьцячы галубку,*
*Стаў яе пытаці:*
*«Скуль, дзяўчынка, будзеш родам,*
*Хто твой бацька, маці?»*



*А яна яму гавора,*
*Пахіліўшысь нізка:*
*«Старшыні я дочка буду*
*З гэтай вёскі блізкай».*

*Спахмурнелі ясны вочы*
*У хлопца маладога;*
*Ен адказу ад дзяўчыны*
*Не чакаў такога.*

*«І я—кажа жаўняронька*
*Да тае дзяўчыны,—*
*З тэй-жа самай вёскі родам,*
*Сын таго старшыні!»*

. . . . . . . . . . . . . .

*Зацямнілі хмары небо*
*Чорнымі крыламі,*
*Пачалася шура-бура*
*З громам, з пярунамі.*

*І ударыў пяруночак*
*У два сэрцы тые,*
*Што пасьмелі снаваць грэшна*
*Думкі маладые.*

*Пад тым дубам іх абое*
*Пахавалі людзі,*
*Насып сыпалі жвіровы*
*На вочкі і грудзі.*

*На тым насьпе ўзыйшлі кветкі,*
*Як вясной сьнег стаяў—*
*Адна жоўценькая кветка,*
*Сіняя другая.*

*Хто ў магілцы сьпіць—усьпелі*
*Людзі ўжо забыцца,—*
*Тые-ж кветкі ахрысьцілі*
*Браткай і Сястрыцай.*

Акопы 23/V—13 г. **Янка Купала.**



Касьба.

# Зьмярканьне.

(*Фантазія*).

Горад-руіна, абліты чырвоным водблескам заходзячага сонца. Віхор вые па апусьцелых вуліцах. Чутна сумная песьня:

Цені нямые грозна гусьцеюць,
Колеры тухнуць, згукі нямеюць,
Тайны бяз імя шлях заступілі,
Немач з тугою мяне паланілі...
Зьмярканьне санлівае, як блудніца пьяная,
За сонцам крадзецца, непаўстрымнанае,
А я, чалавек нядуж, адзінотны,
Іду і іду уперад маркотны.

Выходзе чалавек звонячы кайданамі.

— Зноў труп! Увесь горад, як гнойная рана, і няма яму граніц, і блукаю па ім, як па заклятым месцы. Кволы зьнядужэлы сунуся, як мара, як у цяжкім сьне і здаецца мне, што вякі вякоў буду хістацца тут між запусьценьня, мерцьвякоў і заходзячага сонейка, а кайданы будуць напамінаць няволю, а віхор, бьючыся між руін, казаць: сьмерць, сьмерць...

Садзіцца абяссілены. Маўчаньне. Асыпаецца мур.

— Чуеш душа, як руйнуецца твой твор! Колькі вякоў ты змагалася молячы сонца аб помачы, аж пакуль не набудавала вось гэтые бабілёнскіе вежы, каб іх аставіць пустымі. Бачыш душа во, як валяецца спанявер态 чалавек, як тое бydлё пабітае. Глянь душа на свой пройдзены цярністы шлях. Што ты хацела і што ты хочаш, ненасытная душа, мачыха наша?! Ты чакаеш, чаго не дажджэш, а што дажджэш, не захочаш і што хочаш, сама ня знаеш. Вечна галодная, ты кідаеш мяне на бездарожжо, ў непагоду, ў цемру непражытую і я, пакорны табе, змучаны, поўжывы усё стараюся выйсьці з гэтай магілы туды, дзе радуецца сонцо і гаманіць жыцьцё...

Хоча падняцца, але зьнямогшыся зноў апускаецца. Сьціха напявае.

І ціха ступае зьмярканьне:
Час успамін, час забыцьця.
Між запаху ночы дыханьня
Душа чакае у маўчаньні
Прыходу свайго нябыцьця.

Устае і ідзе. Перад ім узьнімаецца стада груганоў.

— О, мудрасьць людзкая! Што бачу, мой брат! Ты надчалавек, з найвялікшай душой, ты ўсёвед ляжыш ля маіх ног, ног твайго нявольніка, ляжыш паканаы сьмерцяй, ты цяпер—пажыва чарвей, груганоў... Праклянцьце табе, тыран, скупы мудрэц з застыгшым сэрцам! Ты глухі быў на мальбу, на стогн людзей з галадаўшай душой. Ты забраўся на недаступную вышыню мудрасьці і красаваў там для сябе, і забаўляўся між духоўнай роскашы, і пагарджаў, зьдзекаваўся з людзей цёмных, з беднай душой. Праклянцьце табе! Гэй груганы, начніцы рвеце яго на кускі мяшайце з гразёй. То-ж ён прабіваў шлях да тайны тайн! Бог даў яму моц гэнія, багацьце сьвету, а веліч яго мудрасьці была надзвычайная, але ён не падзяліўся з народам а наадварот—угражаў сваей духоўнай моцай. А хіба-ж чалавек можа жыць бяз сьвету!

І вось я павёў цемных, пакрыўджаных, з галоднай душой, павёў на цябе, на брата свайго, павёў вызваляць дух. А на нас братоў пашла немач, пошасьць і ідзе ноч... І вымер горад ад голаду душы, бо брат мой, скупы мудрэц, пашкадаваў змучаным душам жыватворнага сьвету; брат мой, каін ляжыць гідкі, зачумлены, страшны, як грэх прыроды, ляжыць сярод апотэозу сьмерці. Бо хіба-ж можа чалавек жыць бяз любасьці!

— О, брат мой, як я бязьмерна няшчасны, што не магу вярнуць табе жыцьцё. Чаму нашы душы ня зьліліся праменьнямі гарачай любасьці у адно, вялікае бяз плям сонцо, каторае асьвяціло-б наша жыцьцё гаротнае? Чаму ты... Хі-хі-хі... Чую, як насьмешна хіхоча цемра з разрушанага дому праз выбітые вокны, хіхоча, бо

Зьмярканьне санлівае, як блудніца пьяная, за сонцам крадзецца, непаўстрымнае.

— Вітаю цябе, цемра! О, ня будзь ты так пуглівай, бо вораг твой ляжыць паканаы. Слаўлю цябе!

Ты схаваеш сорам чалавека і яго страшные падзеі. Хадзі, цемра, і багуй, прыкрый чорным целуном сьляды сьмерці, асьляні мае вочы, каб я ня мог бачыць, што будзе, што ёсьць, каб ня мог бачыць вось хоць бы гэтай дзяўчынкі у чорным, гэтае маладое адважнае жыцьцё, што бегла па мармурных белых усходках у ніз і завяла не расцьвіўшы, ўпала на ўсходкі. А там недзе ў пакоях, паміж мілых, знаёмых рэчаў, асталіся думкі-лятункі аб каханьні, аб славе, аб шчасьці... Гэй, прыходзьце сюды, асыпайце яе краскамі, праслаўляйце таго, хто вас стварыў, бярог як наймілейшае, найдаражэйшае! прыходзьце, пакуль яшчэ мае воблік красы прыроды...

— О, мармурные ўсходкі, муры зруйнаваные, бязлюдные вуліцы, машыны паржавеўшые, заплачам мы няўсьцешна па бязустанным тварцу, вялікім мучаніку—па чалавеку. Слава яму, слава! О, небо, прырода, глядзеце на чалавека, слухайце яго, мо' ён першы і апошні паміж сусьветнага прастору. Слаўце яго, плачце па ім!

Уходзе рагочучы Пан, бог прыроды. Ён худы, стары, храмы, з сукаватай палкай, укачаўшыся у асеньняе лісьцьцё.

— Хто ты ад сьмеху каторага дамы покаюцца?

— Я, вялікі, стары Пан, бог прыроды, бог твайго бога, прышоў на хаўтуры чалавека, свайго ліхадзея. Сьмейся усё жывое! А хто мне супраціўны, таго вось гэтай палкай прыбыю, капытам забрыкаю.

— Знай-жа ты старая шчэпка, што мне, не дасьмеху: я перажываю цяпер усю тугу, якой дазнало чалавецтво праз сваю доўгую гісторыю і туга гэта ўсё узрастае і прывядзе мяне да сьмерці...

— А скажы, калі ласка, ці ты тут адзін?

— Горо маё!—адзін.

— Ну, дык прападай-жа калі ты такі адважнік!... Не, шкада мне палкі на табе псаваць. Эх, ведаеш, што я табе параю? Дастань ты мне жыватворнай вадзіцы, каб я, скупаўшыся ў ёй, мог адмаладзіцца. Пасьля вычысьці плямы на сонцы, а то мае старые косьці мерзнуць, і канешна раздабудзь, ну хоць-бы сабе з Марса, насеньня траў, дрэў розных жывёліны, бо на зямлі расьліна драбнее, звяр'ё вымірае... І кінь, праклянi ты гэтые муры, машы-

ны і я цябе абніму моцна, як блуднага сына, што вярнуўся к праўдзе.

— Ніколі! У знак протэсту і найвялікшай пашаны к сваім прашчурам і іх мудрасьці я цалую восьгэты зачумлены труп...

— Эх, ты блуднік! Губіш самахоць сябе. Цэлае жыцьцё блудзіў, шукаючы шляху да сонейка. Сьвятла, мудрасьці хацеў больш... Ха-ха-ха! А ці ты ведаеш, нерастаропная галава, што ты і брат твой і ўвесь гэты горад пагінулі ад таго, чаго вам так жадалося... Пакуль ня позна, апамятайся, даўміся, загаі мае раны...

— Ніколі!...

— Гэй, лес мой, добры брат, абступі цесным кругам і упрыся магутным плячом у муры каменные, праклятые, не выпускай адгэтуль двуногіх, зачумленых!... А ты, дзікая, калючая трава, разьядай карэньнямі каменны падмур, расьцілайся зялёным дыванам, укрывай гэту гідасьць, гэты сьлед і магілу чалавека! Гэй, іскрэцеся рэкі, гуляй віхор, пей хвалу вялікаму, старому Пану!

— О, пень трухлявы, кланяйся мне ў ногі, прасі выбачэньня—я ямчэ чалавек, я іду пазнаць тайну, што завецца сьмерцяй, а пазнаўшы яе, стану богам... Я ўміраю...

— Але! Ты бог, хоць жыў неказіста. Не, ты проста-ткі злодзей. Украў у Наймудрэйшага частку яго багацьця, што дрэнна ляжала, і зужыткаваў няўмела, распусна, на сваю пагібель. Ужо памёр!... Я астаўся адзін... Чаму-ж я ня радуюся, не трыумфую... Нейкі страх мяне апаноўвае... Вось, здаецца, зараз здрыганецца, закалышацца зямля, насупіцца, прыгразіць небо... Мне страшна. Ну, але я тут загутарыўся, а ўжо і сонца няма—у пацёмках сярод гэтых руін і заблудзіцца можна... Ох, як холадам павеяло... Страшна мне...

Адварачваецца, каб ісьці, але перад сабой бача чорны цень.

— О, небо! Хто ты, чаму ня пускаеш, нашто заступіў мне дарогу, што ты хочаш? Чаму маўчыш? О, як цёмна стало... Гэта ты сонцо украў, запрапасьціў. Ты?... Зноў маўчыш!... Ад цябе цемра хваляй разьбягаецца. О, не глядзі на мяне—ад твайго погляду кроў застывае, ў тваіх вачох бесканечная ноч гнязьдзіцца, на тваіх вуснах аддыхае вечнае маўчаньне... О, як тут стала ціха, глуха і ноч захінула ўсё. Чую дыханьне сьмерці, холад сырасьці магільнай. О, пусьці мяне! Хто ты? Ці з табой змагацца, ці маліцца да цябе?! Хто ты?

*Л. Родзевіч.*

# З цыклю „Крывавы Год“.

*Абразок у 1 дзеі. 1915—1916.*

(Старые могілкі, пахілые крыжы і дрэвы. На ўзгорку старая капліца, а на ёй разьбіты гадзіньнік. Каля капліцы трыножак—пры ём варажбіты, ў доўгіх, шэрых вопратках. Ля гадзіньніка стаіць Ч а р а ў н і к.

Ч а р а ў н і к (з таемнай моцай у голасе, робячы знакі рукою над гадзіньнікам).

Апоўначы роўна
Старые пружыны твае ажывуць,
І голасам поўным
Дванаццаць прабьюць.

(Да варажбітаў):

Там кончано ўжо... Скарэй цяпер, скарэй
Ахвярную жыва распаляйце,
З магілаў адкапаць нябошчыкаў касьцей,
Крыві з начніцы дабывайце.
Скарэй, скарэй нясеце пустазельле,
Закляцьце кіну заклятое,—
Тым мы жыцьцё—жыцьцё старое—
Звацьклікаць будзем на вясельле.

(В а р а ж б і т ы прыносяць кроў, косьці, зельле і кладуць перад ім.)

Ч а р а ў н і к (робячы нейкіе знакі рукою):

Прыдзі да нас, стань марай
Прад гэтаю ахвярай
Крыві-касьцей...
Прыдзі бардзей,—
Хоць кроў, агонь і косьці
Узываем сабе ў госьці...
Прыдзі як ёсьць—крывавы,
Са сьмерцю ў руцэ правай,
З мукай у другой...
Табе слугой
Сьвет цэлы хвілін колькі—
А пасьля—ўспомніць толькі
І ўнук, і дзед
Твой грозны сьлед.

(Бярэ зельле-кроў-косьці, кладзе на трыножак і запаляе. Чорны дым расьцілаецца па зямлі. В а р а ж б і т ы бяруцца за рукі і ходзяць каля трыножка. Ч а р а ў н і к стаіць, абапёршыся аб крыж).

В а р а ж б і т ы:

Прыдзі да нас, прыдзі ў кайданах
Як быў, як ёсьць—прыдзі!..
Прыдзі крывёй людзкой збрызганы,
Прыдзі праклятый—з гора знаны,
Прыдзі—прыдзі!
Мы пачастунак твой каханы
Ужо прыгатовілі табе,
Праз кроў, агонь і дым сярчаны,
Праз зельляў кучу заклінаных,
Завём—прыдзі!..

(Праносіцца сьвіст, зьвяг жалеза).

Ч а р а ў н і к (працяжна). Ц-і-і-ха!

Усе ад агню ўраз адступайце
Становіцеся у рад,
Цішэй—дыханьне устрымайце
Цішэй—цішэй...

(На трыножку агонь робіцца чырвоны, зьяўляецца полымя ад пажараў, праходзяць абразы вайны адзін за другім—спустошаные, пакрытые трупамі і крывёй палі, могілкі... Зьяўляецца С т а р ы Г о д і нясе ў руках ланцугі, каторые зьвягаюць,—уся яго адзежа ў крыві, узгляд люты. За ім, адна за другой, зьяўляюцца м а р ы, у доўгіх, чорных вопратках).

М а р а 1. Ха-ха-ха! Зямля ўся у рубінах,
Ха-ха-ха! Як пекна увакол!..
Во, слухай—чуй! Ад сёл да сёл
Стон згрозны мкнецца бяз упыну...

М а р а 2. Ха-ха-ха-ха! Пагляньце, там
Чырвоная вада ў рацэ нясецца
А ў ёй, а ў ёй—то сям, то там
Труп шчырыцца ссінеўшы—моўсьмяецца.

М а р а 3. Ха-ха-ха! Гарацьлуны пажараў,
Маланка-гром не уціхае;

Як вокам кінь—крывавые абшары
Трупоў памост зямлю ўсьцілае.

Мара 4. Ха-ха-ха-ха! Тут дзеўча—ў болі,
Скапала маці там ад плачу,
А там—знаць бацька ўжо, няйначай,
Павесіўся на вербе ў полі...

Мара 5. Ха-ха-ха-ха! Укол руіны
Няма сьлядоў загону ні мяжы,—
Адзін насып—ды ўсьцяж усей даліны
На ём крыжы... крыжы... крыжы...

Мара 6. Ха-ха-ха-ха...

Чараўнік (выступаючы ўпарод і паднімаючы руку, громка). Досыць!

(Сьмех абрываецца; гадзіньнік вольна, са зьвягам бье дванаццаць. Цені кідаюцца на усе бакі, бляднеюць, ўрэшце, гінуць).

Чараўнік (паказваючы на трыножак).
Вазьмеце попел гэты,
Засыпце іхніе сьляды
І будучыны нашай леты
Ня пойдуць сьцежкай той тагды...

(Варажбіты засыпаюць).

Чараўнік (стоячы над імі).
У стан мінуўшчыны зышоў
Астатнім ён такім, як быў,
Ня будзе больш такіх гадоў.
Ды покуль гдзе хто будзе жыў,
Ня выйдзе ён з душ і галоў
Людзей.

(Да варажбітаў). Скарэй
Дастаньце кветак пук пахучых,
Праменьняў зорак наматайце,
І тут усюды раскідайце.
Вазьму вугальлёў я гарачых
І запалю кадзідлаў дым.
Тагды пабачымся мы з тым,
Каго чакаюць з нецярпеньнем,
Хто прыдзе з болю палягчэньнем,
Хто дасьць народу добру долю,
Хто прынясе сьвятло і волю!

(Кладзе кветкі і праменьні, што даюць яму варажбіты і запаляе іх на трыножку. Сьветлы дым пахучай ручаінай плыве роўна ўгару).

Чараўнік. Палю кадзідлы,
Станоўцесь у рад,
А ты на скрыдлах
Прымкні з высот.

(Працягае рукой), То ні магільнік—а сад,
То ні крыжы—гэта плот...

(Сумна) Хай магілкаў від цябе не ўстрашае,
Загладзь, што прэдак твой зрабіў,
Увесь люд на цябе надзею пакладае
І верыць, што ты споўніць іх прыбыў...

Варажбіты. Прыдзі, сьвятлісты,
Прыдзі, чаканы,
Праз кветкі званы,
Праз блеск лучысты.
Прыдзі... прыдзі!..

(Зьяўляецца сьветляная постаць, а за ёй ясных дванаццаць ценяў).

Новы Год. Іду, іду... Ды тут няма дарогі?!
(Аглядаючыся). Што за луна там, над зямлёю?
У ліпкім чымсь завязьлі мае ногі—
Ісьці так трудна—а ня ўстою:
І там завуць, і там завуць—
Што творыцца з жыцьцём? С[illegible] сьветам?

Чараўнік (паважна). Гады [illegible]і. праходзяць, [illegible]ць,
Чаканые з такім самым прыветам...
І ніводзін з тых гадоў ня даў
Нам шчасьця ў гоны—ні патолі—
Цябе—цябе так люд чакаў,
Чакалі сэрцы, поўны болю,
Чакаў адзін... адна... народ
Крывёй залітые даліны...
Ты сьветлых дзён пачні чарод,
О, так ня кінь, як той нас кінуў...

Новы Год (зрываючыся да лёту. Сьветлые цені ціха ўтораць яму). О, не,—о, не—
Мы споўнім ўсе надзеі
Паходняй заясьнеем
У цемры вякоў...
Мы споўнім ўсе жаданьні
З якімі прывітаньні
Вы шлеце—мне..
Ад шчасьця мне адданы
Есьць ключ зачараваны,—
Адчынім схоў—
Усе ў мяне народы—
Срэдзь волі і свабоды—
Усе будуць жыць!
Цяпер памкнёмся далей,—
Там клікалі, там звалі
Дарыць—лячыць!!!...

(Праносіцца ў паветры. Чараўнік працягівае за ім рукі, быццам бэгаслаўляючы яго, варажбіты стаяць радам. Трыножак абвіты кветкамі, на ім агонь прыгаслы).

Заслона.

**Кан. Буйло.**



Вясковые лернікі.

## РАМАНС.

*Ціха спаў стары лес недалёчка,*
*На балоце кулік чыркацеў,*
*Тэй вясны была цёплая ночка,*
*Што ня вернецца зноў, каб хацеў.*

*Хутка недзе схавалася вёска,*
*Усё гусьцела й гусьцела імгла;*
*Твая мілая, доўгая коска*
*Чорнай стужкай на плечы лягла.*

*Яшчэ зоркамі вочкі сьвяцілі.*
*Шчасьце-моладасьць грэло душу...*
*Тые думкі, што нас засмуцілі,*
*Я дагэтуль, як шчасьце, нашу:*

*«Нас нядоля ліхая злучыла,*
*І ў наплыве сьляпога чуцьця*
*Усю атруту пазнаць навучыла...»*
*Дый заплакала ты, як дзіця.*

*У беднаце мы абое стагналі,*
*Як ад нейкай хваробы-чумы,*
*Ніякога ратунку ня зналі,*
*Век галодные, бедные мы.*



Дарога у Барысаушчыне.

*Было жудасна нам сярод ночы,*
*Лёд нядолі застыў каля нас.*
*Ты, як ангел, мне глянула ў вочы*
*І пачула: «Расстацца нам час»...*

Менск 14/VI 1918. **Краўцоў Макар.**

# Дзе канец зямлі?

Даль была туманна-празрастая, абрызганая з берагоў пазалотаю сонейка. Месцамі край неба падпіралі шчарбатые вяршаліны хвоек. Месцамі ўзгорак у самае небо ўглядаўся, а месцамі паласы далі, стужка за стужкаю, кайма за каймою, зьядналі небо з зямлёю. Нібы абрусы-тканіны былі раскіданы радамі паміж небам і зямлёю дзеля таго, каб яны бялілісь пад сонейкам. Рады гэтых абрусоў, пачынаючы ад бору, былі спачатку цёмные, потым сівелі і лёгкім, чуць заметным дымком зьліваліся з блакітам кволых, празрастых нябёсаў...

Янка, малы сямігадовы хлопчык, каторы пасьвіў гусей на выгане ля рэчкі, пазіраў зьдзіўлёнымі васільковымі вачыма на сьвет Божы, ды нагледзецца ня мог. На кожным кроку бачыў ён дзівы-дзіўные:

... З-з-м! з-з-м! глядзі, Янка, — кажа залатая пчолка з кветкі канюшыны,—які вялізарны абшар зямлі, канца нідзе няма. Няма канца гэтым кветкам з салодкімі зацукраванымі збаночкамі. Ой, вялік сьвет Божы...

... С-с-с! колькі каласоў, братоў родных, вакол мяне—шэпча здалёку жытні колас Янцы, — ліку няма...

... Чалом! чалом! чалом! Яначка,—пяе жаўронак над галавою пастушка.—Ой, як высока небо над намі, каб ты ведаў...

Янка шмат чаго бачыць, чуець і ведае. Равесьнікі сьмяюцца з яго—ён заўседы адзін, як дзікі ваўчок. Ні з кім у конікі ня гуляе. Хаваецца ад усіх... Вочкі у яго часам сумные, сумные. Гэта тагды ён сумуе, калі па шырокай дарозе гасьцінцу едуць падарожнікі. Падарожнікі паказваюцца з аднаго краю нябёс чорнымі жучкамі, большаюць, большаюць, покуль зробяцца вялікімі, як Янкаў бацька. Чуе Янка ляск пугі, бачыць успацелых конікаў і запыленых падарожнікаў...

Здалёку-здалёку едуць падарожнікі, і Янка вельмі зацікаўленна углядаецца ў іх. Яго цікавіць іх гутарка, вопраткі, коні, каламагі...

І дзівіцца Янка і надзівіцца ня можа..

У працяг у даль дарогі-гасьцінца едуць падарожнікі. Скрыпяць і грукаюць калёсы. Цішэюць-цішэюць. Меньшаюць-меньшаюць. Робяцца тымі самымі маленькімі жучкамі, якімі былі спачатку. Вось-вось уходзяць за пагорак на самым краі неба... Ой-ой, няма ўжо іх—згінулі-зьніклі...

І зноў жоўтая дарога апусьцела-анямела... Улёгся пыл жаўтавата-залацістымі плямінамі... А ціш такая сярод летняга дня, што здаецца—Сам Ойца-Божанька заснуў з ангеламі Сваімі.

А Янка дзівіцца—ды канца мяжы няма дзівам яго неадступным:

... Скуль гэные падарожнікі, якіе прыехалі з канца зямлі?

... Куды яны паехалі, згінуўшы на другім канцы зямлі?

Пільна-пільна углядаецца Янка ў маўклівую стужку залацістай дарогі ды нічога зразумець ня можа.

А дарога мягкімі дыванамі гарачага пяску цягнецца удоўж, перарэзваецца упапярок, узлавата пляцецца у розные староны па твары зямлі, нібы маршчыны на твары бабулькі.

... Старая-старэнькая зямелька наша,—думае Янка,—а жывець-жывець... Ды яшчэ якім маладым галаском дразьніць яна яго часам.

Помніць ён, як аднаго разу з маткай у грыбы пайшоў. Загуляўся ён тады ля канца пры муравельніку і страціў матку сваю. Ен спужаўся і падняў крык на увесь лес:

— Матка, дзе ты?

— Матка, дзе ты?—дразьніла яго зямля з усіх бакоў. З бярэзьніку, з бору, з пусткі.

Ен у сьмех—зямля у сьмех. Ен у плач—зямля ў плач. Вось ён тады злаваўся і тупаў нагамі.

Але дарога цікавіць яго болей усяго, бо па ёй людзі прыходзяць няма ведама адкуль і уходзяць няма ведама куды...

То пакажацца на дарозе сьляпы жабрак-лірнік з хлопчыкам-павадыром. То на кермаш едзе цэлае моро народу.

І Янка бачыць вялікі рух жыцьця, новы, вялікі рух, якога ён рэдка і бадай што ніколі не спатыкаў у сваей роднай маленькай вёсцы.

Гусі ідуць у шкоду, а Янка, раззявіўшыся, цэлымі гадзінамі пазірае на бязьмежную дарогу, поўную незразумелых, цікавых рэчаў, абвеяную вабнымі шчыртаемнасьцямі...

Шмат разоў меў Янка ад бацькі добрую лупцоўку, затое, што гусей у шкоду пускае, але нічога не памагае.

... Дзе канец сьвету?

Янка думае цэлымі днямі, тыднямі, месяцамі і даведацца ня можа.

... І бабка Аудоцьця гэтага ня ведае. А дзядзька Арцём робіць толькі тое, што сьмяецца з яго пытаньняў.

... Бацька то пэўна знае, але ў яго боязна дапытавацца, бо яшчэ, чаго добраго,—асьцёбае.

... Сам сам пазнаю. Розумам уласным даведаюся.

Прыслухоўваецца ён да розных казак страшных. Болей усіх дрыжыць Янка ад жудасьці людаедаў і разбойнікаў. Сьлёзы самі коцяцца з яго вачэй пры жаласьлівых песьнях начлежнікаў. Проста сэрцо маленькае выскачыць хоча з яго грудзей.

... Але ніхто ня ведае, дзе канец сьвету.

... Пэўне сонейко ведае,—думае Янка. А сонейко—яго першы сябар.

І ўлетку, і ўзімку, і ўвосені, і на вясну Янка ад усходу да заходу любіць пазіраць на слонцо.

Жмурачы вочы свае на сонейко, чуе ён, што нізразумелая радасьць квітнее і расьце ў яго душы.

Сонейко—добры, шчыры вартаўнік таго абшару зямлі, што ведае Янка. Сярод лета сонцо ўсходзіць вельмі рана з праваго краю гары, залоцячы вершаліны альхоўніка пад гарою ля рэчкі; а заходзіць яно вельмі позна з левага краю гэтай самай гары, залоцячы так-сама вершаліны дрэў. Сонцо робіць тады чуць ня цэлы круг над тым абшарам зямлі, што ведае Янка.

Увосені сонцо ўжо падымаецца з бярэзьніку і заходзіць у цёмны бор, дзелячы ўвесь круг толькі напалавіну.

Узімку сонцо ўсходзіць вельмі позна над дарогай на краі неба і заходзіць вельмі рана ў лагчыну. Яно абхоплівае зусім малы кавалак неба.

... Пэўне ўзімку холадна сонейку,—думае Янка.

А на вясну, як пачынае цяплець, сонцо ізноў даўжэй спацыруе па небе. А як яно часам небо фарбуе... Янка нагледзецца ня можа. Чаго-чаго ён ня бача тады ў небе—і розные замчышчы з белага і ружовага мармуру, і цэлые спады невядомых зьвяроў, і вялізарные вогнішчы, і чырвоные рэчкі...

... Пэўне сонцо ведае, дзе канец сьвету—перакануўся Янка аднаго разу пад вечар. Хоць маці строга казала, нікуды далёка ад гусей не адыйсьціся, але раз назаўсягды трэба дабрацца да канца сьвету. Трэба дабрацца вось туды, дзе сонейко начуе за лесам, вось туды, куды зазезьлі нябошчыцу бабульку, бо маці казала, што бабульку на той сьвет адправілі...

Хлопчык зірнуў на гусей, што гагаталі ў сухой канаве на выгане. Глянуў на вёску: мо хто з сваіх на вуліцу вышаў. Усюды было ціха і пуста. Цішыня на заход сонейка.

А сонцо чырвоным вогнішчам стаяло за гарой і вабіло і звало да сябе Янку...

Янка перажагнаўся і пусьціўся бягом. Бег-бег дарогай, покуль дабег да той бярозкі, дзе сонцо павінно было зайсьці ў ніз. Бач—аж сонцо адскочыло ад яго далей, да сівой крушні. Яшчэ ніжэй спусьцілося яно там, апіраючыся чырвоным бокам сваім аб зялёны дуб.

Ня доўга думаючы хлопчык з усіх ног пусьціўся далей. Надта хочацца яму зірнуць, дзе сонцо заходзіць,—а сонцо ад яго далей—уцякае...

Янка змарыўся—спацеў, але прэць упярод супраціў сонца, супраціў таго разнакалёрнага пажарышча, якім яно абхапіло небо...

Новые далі адкрыліся вачом Янкі, новые лагчыны, новые узгоркі, новые лясы, новые дарогі, дарожкі і сьцежачкі, простые і крывые, ва ўсе бакі...

—Стой!—крычыць ён сонцу троху ўстрывожаны, бо бацьку ўспомніў, успомніў тую лупцоўку, якую будзе ён мець ад бацькі, бо пэўне гусі ў жыце.

— Стой!—дразніць яго зямля з лесу з-пад гары—з усіх старон.—Стой!...

А Янка бяжыць з імпэтам упярод. Вочы гараць дзіка—няпрытомна.

... Дзе канец зямлі?—

Канца-мяжы няма...

Божанька... Сонцо ужо зайшло... Зрокі пачаліся...

І тут толькі Янка угледзіў, што стаіць на старым могільніку, сярод лесу высокіх, абросшых мохам крыжоў...

Шмат страшных казак, аб мярцох і ваўкалаках ведае ён з гэтага месца...

... Ці тут канец зямлі?

**З. Бядуля.**



# Кароткі гістарычны нарыс Горадзеншчыны.

*(Гл. № 7-8).*

Ня гледзячы на нацыянальна-культурную размаітасьць у краі, ў гэты час мы яшчэ ня бачым нацыянальнага змаганьня.

Беларуская культура тут, як і ва ўсім гаспадарстве, мае глыбокіе карэньні. Усе законы гаспадарства і указы гаспадароў пішуцца у беларускай мове. Дзяржаўнаю моваю, на аснове артыкулу Літоўскага Статуту 1526 г. з'яўляецца мова беларуская. Калі мы зьвернемся да актаў Горадзенскага земскага суду гэтага часу, то так сама пабачым тут беларускую мову.

Як і раней, рэлігіяй большасьці жыхароў краю зьяўляецца ўсходняе хрысьціянства. Побач з ім з канца 14-га сталецьця, пачынае пашырацца заходняе хрысьціянства, каторае потым пачне конкураваць з усходнім. Але гэта пачнецца ўжо пазьней. Ніжэйпаданые цыфры могуць ілюстраваць процэнтные адносіны праваслаўных і каталікоў у краі: У 1506-м годзе у Горадне ёсьць 3 праваслаўные цэрквы і няма ніводнага касьцёла; ў сярэдзіне 16-га сталецьця 7 цэркваў і 2 касьцёлы. У Кобрыне ў 1556-м годзе было тры цэрквы і адзін касьцёл.

У 1569-м годзе Літоўска-Беларускае гаспадарство з прычын унутраных асабліва замежных, павінно было рэальна злучыцца з Польшчай. З абодвух гаспадарстваў зложылося адно пад назваю „Рэч Паспалітая Польская". Частка Горадзеншчыны (Берасьцейская і Бельская землі) была зусім адарвана ад гаспадарства і прылучана да кароны.

Кароль і гаспадар Рэчы Паспалітай Стэфан Баторы (1576—1586) часта гасьцёваў у Горадзеншчыне і падоўгу жыў у Горадне. Тут, пры ўпадзе р. Гараднічанкі у Нёман, на месцы зруйнаванай татарамі крэпасьці, ён пабудаваў мураваные палацы, якіе у нашые часы носяць назву старога замчышча. Ад муроў асталася адна сьцяна з боку Нёмана. Гэты даравіты кароль аставіў па сабе добры ўспамінак у Горадзеншчыне.

Казацкі рух 1648 году, падняты Багданам Хмяльніцкім, ад'значыўся і на Горадзеншчыне. Пачалі гуртавацца паўстаўшые мужыкі і прылучацца да групаў Хмяльніцкага. Паны крыліся ў гарадох, казакі бралі гэтые гарады і помставалі. Казацкі рух наймацней абрушыўся ў Слонімскім павеце Горадзеншчыны. Вядома, напрыклад, што мястэчко Жырава ў 1656-м годзе было спалено атрадам казакоў, каторы адтрымаў тут верх над польскім войскам.

Апроч хатніх бедаў, на сярэдзіну 17-га сталецьця спадаюць дзьве вайны, адна з Маскоўшчынай, другая з Швэцыяй. У 1653-м годзе у Горадне сабраліся сэнаторы. З імі кароль Ян-Казімер раіўся аб тым, як лепш пакіраваць гэтые войны. У гэтым-жа годзе быў скліканы Сойм у Берасьці. На сойме гаварылося шмат прамоваў аб гразіўшых войнах. Усе гэтые нарады і прамовы мала дапамагалі справе. Абедзьве вайны былі няўдачны для Рэчы Паспалітай і прынясьлі руіну для Горадзеншчыны. Горадзен з акружнаю тэрыторыяю быў заняты царом Аляксеям Міхайлавічам і яго арміяю на працягу ад 1655-га да 1657-га г. Пасьля выхаду маскоўскіх войскаў тэрыторыю і горад занялі швэдзкіе войскі, каторые тут стаялі ад 1657 г. да 1661 г. Зразумела, што Горадзеншчына пасьля гэтых двух окупацыяў была зусім зруйнована.

З 1663-га году у Горадне грунтоўна абасноваліся езуіты. Іх кляштар (цяпер Фарны касьцёл) меў вялікую маетнасьць і выдатных дзеячоў.

Наступіло 18-е сталецьце. Пётр I, імпэратар расійскі вядзе з швэдамі паўночную вайну за Балтыцкае мора. Кароль Рэчы Паспалітай Аўгуст II Саксонскі (1697—1733) зрабіўся яго хаўрусьнікам. У 1705-м годзе 16-га верасьня у Горадне была вялікая урачыстасьць, спатканьне хаўруснікаў. Пасьля урачыстасьці Пётр I прабыў у Горадне аж да 7-га сьнежня 1705 году, дзівуючы меставых жыхароў сваімі зусім няцарскімі звычаямі. Хутка сюды пачала зьбірацца расійская армія і стала тут на зімовую кватэру. Укола гораду будаваліся



Хата у Ігуменшчыне.

укрпленьні. Прадмесьці дзеля ваенных мэтаў былі спалены. Пасьля ад'езду Пятра Вялікага агульную каманду над войскамі узяў ў свае рукі Аўгуст II. Даведаўшыся аб месцы сконцэнтраваньня варожых сілаў, Карл XII швэдзкі скіраваў свае войскі 28-га сьнежня 1705 году на Горадзен. Пераправа швэдаў праз Нёман адбылася пры вёсцы Дзевятоўцах, ў 3 вёрстах ад гораду. Пачалася аблога Горадна швэдзкімі войскамі. Карл XII ня даў магчымасьці абложаным атдрымываць з акалічных вёсак провіянт. Расійскай арміі прышлося пакінуць горад, і 24-га сакавіка 1706 г. Горадзен занялі швэды. У 1708 годзе расійскіе войскі зноў занялі горад, але хутка былі выціснуты адсюль швэдамі. Карл XII увайшоў у Горадзен толькі праз дзьве гадзіны пасьля выхаду адтуль Пятра I. Разумеецца, што пасьля ўсіх гэтых ваенных перамен Горадзен і прылежные да гораду землі былі зусім спустошаны, жыхары Горадзеншчыны зусім зьбяднелі. Цяжкае становішчо краю зьвярнуло навет на сябе увагу ўраду. Праз некалькі год Аўгуст павінен быў выдаць асобны рэскрыпт, на аснове якога жыхары Горадзеншчыны звальняліся ад вайсковага пастою і натуральных павіннасьцяў.

З горадзенскіх соймаў гэтага часу трэба ад'значыць сойм 1718-га году. К канцу панаваньня Аўгуста II у Горадне няма а ніводнай праваслаўнай цэрквы. Тое самае павінны сказаць і аб Бярэсьці і некаторых другіх гарадох Горадзеншчыны.

У сярэдзіне 18-га сталецьця кароль Аўгуст III (1733—1764) пабудаваў у Горадне вялікіе мураваные палацы для пасяджэньняў Сойму, бо паслы скаржыліся, што горад ня мае добрага памяшканьня для соймавых сэсыяў. Гэтые палацы, існуючы да нашага часу, носяць назву Новага Замку і знаходзяцца як раз насупраціў Старога Замку, пабудаванага Стэфанам Баторым у 16-м сталецьці.

У часы апошняга польскага караля Станіслава Панятоўскага—Аўгуста IV (1764-1795) у Рэчы Паспалітай была заложана так званая Эдукацыйная Камісія. Гэта быў першы прыклад міністэрства народнай асьветы ў Эўропе. Уся Рэч Паспалітая была разьдзелена на дзевяць навуковых акругоў. Горадзен быў зроблены асьветным цэнтрам так званага Літоўскага Округу. У кожным з такіх цэнтраў, ў тым ліку і ў Горадне, была заложана вышэйшая школа.

На канец 17-га сталецьця выпадае дзейльнасьць у Горадне і ў Горадзеншчыне вядомага фінансістага і эканамістага таго часу Антона Тызэнгаўса († 1785), надворнага подскарбьяга вялікага княства Літоўскага, каторы меў пад сваім загадам каралеўскую маетнасьць у Горадзешчыне. Зруйнованы і зьнішчаны край пачаў пакрыху апраўляцца. Тызэнгаўс, трымаўшыся паглядаў эканамічнай мэркантэлістычнай тэорыі, падтрымаваў фабрычна-заводзкую прамысловасьць і гандаль. Ён выдаваў матэрыяльные дапамогі і размаітые прывілеі фабрыкантам, заводчыкам і гандляром, залажыў у Горадне першую на Беларусі гандлярскую кантору, упарадкаваў друкарню. Гэта быў высока адукаваны чалавек, які добра ведаў літэратуру эпохі прасьветнай філёзофіі і асабіста знаёмы са многімі якімі з францускіх дзеячоў таго часу. Цікава ад'значыць прапазыцыю Тызэнгаўса, каторую ён зрабіў Ж. Ж. Русо—, каб гэты філёзоф, які ідэалізаваў першапачатковые часы чалавечай культуры, пераехаў на жыцьцё ў Белавежаскую пушчу, як найбольш адпавядальнае месцо для настрою Русо. Гэтая прапазыцыя спадабалася філёзофу, і толькі нейкае здарэньне не дало яму магчымасьці зьдзейсьніць гэты плян.

Канец 18-га сталецьця быў сьведкаю скону Рэчы Паспалітай, а Горадзен быў сьведкаю гістарычнага маўчлівага Сойму, каторы адбываўся у Новым Замку, пабудованым Аўгустам III. У чэрвені 1795 году па указу Катарыны II, імпэратрыцы расійскай, у Горадне было заложано так званае „Верховное Литовское Правленіе"—кіраўнічы орган гэнэрал-губэрнатара Літвы. У сьнежні (14) гэтага самага году зноў па указу Катарыны да Расійскай імпэрыі была далучана Горадзеншчына, за выняткам Беластоцкай абласьці, каторая адыйшла да Прусіі. Гэтые землі злажылі Слонімскую губэрню Расіі з цэнтрам у г. Слоніме. З 1801-га году новая губэрня была перайменована у Горадзенскую, яе цэнтрам зрабіўся Горадзен. Беластоцкая абласьць была далучана да Расіі і да Горадзенскай губэрні толькі ў 1842 годзе.

19-е сталецьце пачалося барацьбою Аляксандра I з Напалеёнам. Перад кампаніяй 1805 году у Горадне было сконцэнтровано 90 тысячаў расійскага войска, ў 1805-м годзе ў двары Пулавах Берасьцейскага павету гасьцяваў Аляксандр I. У часе кампаніі 12-га году у Горадзенскай губэрні і ў Беластоцкай абласьці мела чыннасьць 2-я расійская армія, на чале каторай стаяў гэнэрал Багратыён. Пад націскам францускай арміі 17-га чэрвеня 1812 года расійскія войскі вышлі і іх месцо заняла пяхота Напалеёнавага брата Гэроніма, караля Вэстфальскага. Урад Напалеёна з аднаго боку абвяшчаў мужыком волю, а з другога боку накладаў на іх усялякіе павіннасьці і налогі: рэкрутамі ў францускую армію было узято з Горадзеншчыны 5968 чалавек, грашыма—900 тысячаў злотых. Праз нейкі час з палудня падыходзіць раней да Бярэсьця, потым да Кобрына 3-я расійская армія на чале каторай стаіць гэнэрал Тармасаў. Вынікае вялікае змаганьне пад Кобрынам. Гэта была першая перамога расійцаў над французамі. У верасьні 1812 г. да Берасьця падыйшла расійская армія, на чале каторай быў адмірал Чычагоў. Пастаяўшы тут некалькі тыдняў, гэтая армія пасунулася на ўсход, да р. Бярэзіны. У сьнежні 1812 году г. Горадзен займае вядомы начальнік расійскай партызанскай групы Давыдаў. Такім спосабам праз увесь час кампаніі Горадзеншчыну спусташалі. Пасьля 1812 году становішчо горадзенскага селяніна цяжкае: забіты прыгонам і паншчынай, зьнішчаны вайною, ён жыве толькі як працоўны інструмэнт, патрэбны для пануючых клясаў.

Калі пачалося польскае паўстаньне 1830—31 року, расійскіе войскі сабраліся у захадняй часьці Горадзеншчыны, паміж Горадням, Белымстокам і Бярэсьцем. Полымя паўстаньня абхапіло большую частку Горадзеншчыны, затым што лясы і балоты яе давалі добры прыпынак паўстанскім групам.

У 1839-м годзе уніяцкіе біскупы—Язэп Сямашка, Васіль Лужынскі і Антоні Зубка, зьехаўшыся ў Полацку на сабор, злажылі акт аб злучэньні вуніятаў з расійскай праваслаўнаю цэрквою. Акт аб злучэньні у гэтым-жа годзе быў падпісаны ра-

сійскім імпэратарам Мікалаем І. У гэтым-жа годзе быў выданы царскі указ, які забараняў ужываць у цэрквах і касьцёлах на казаньнях беларускую мову. Тые сьвяшчэньнікі і парафіяне, каторые не хацелі прызнаць гэтых актаў, павінны былі нясьці кару. Народ за часы вуніі (243 гады) зжыўся з ёю, прывык да яе. Казаньні у роднай мове рабілі для народу зразумелай гэтую веру. Прымусовае скасаваньне вуніі і роднай мовы ў казаньнях з болем адбілося на народным сумленьні. На аснове акту 1839 году усё уніяцкае насяленьне Горадзеншчыны увайшло ў склад праваслаўнай Літоўскай епархіі. Епархіяльны праваслаўны епіскап спачатку жыў ў м. Жыровічах Слонімскага павету; там-жа была консысторыя і духоўная сэмінарыя. У 1845-м годзе епархіяльны цэнтр быў перанесены у г. Вільню; туды-ж была пераведзена літоўская консысторыя і духоўная сэмінарыя, ў Жыровічах былі застаўлены толькі малодшые клясы сэмінарыі пад назраю духоўнага вучылішча.

Указам 1840 году была прыпынена дзейнасьць старога Літоўскага Статуту ў губэрнях б. гаспадарства Літоўска-Беларускага, ў тым ліку і ў Горадзенскай губэрні. Расійскі урад, няведаўшы зусім гісторыі краю, лічыў Статут творам польскай культуры і дзяржаўнасьці. Скасаваньне ў судох таго права, на якім ўзгадаваўся беларус, абурыло, як і вунія, пачуцьцё беларуса і даводзіло да ўсялякіх непаразуменьняў практычнага напрамку.

Мужыцкіе бунты як у цэнтральнай Расіі, так і на Беларусі прымушалі урад імпэрыі заняцца мужычым пытачнем. З 40-х гадоў на Беларусі і Літве закладаюцца так званые інвэнтарные камітэты пад кіраўніцтвам губэрнатараў. Сябры гэтых камітэтаў назначаюцца урадам з дваранаў-земляўласьнікаў губэрні. Мэтаю гэтых камітэтаў павінно было быць паляпшэньне мужычага становішча. Такі камітэт у Горадзеншчыне істнуе з 1844 году. Разумееццa, што, як у Горадзеншчыне, так і ў іншых губэрнях, гэтые камітэты прыносілі карысьць толькі тым паном, каторые прыладжаваліся ў іх на службу. Што-ж датычыцца да мужычага становішча, то яно ўсё больш і больш пагражало імпэрыі эканамічным і палітычным крахам. Тады ўрад Аляксандра II павінен быў зрабіць нейкіе крокі для вырашэньня мужычага пытаньня.

Далей ход мужыцкай рэформы быў звычайны. Выданы быў царскі указ 19. II. 1861 году, і 349267 мужыцкіх падданых «душ» былі вызвалены. Выкупная плата у Горадзеншчыне была вызначана ў 240, 180 і 120 рублеў за дзесяцціну У сакавіку 1861-га году было адчынено «Гродненское Губернское по Крестьянским делам Присутствие»; губэрня была разьбіта на 165 валасьцёў і на 1656 вясковых обчэстваў. Мужыцкая рэформа не здаволіла інтарэсаў мужычага стану як у ва ўсёй Расіі, так і ў Горадзеншчыне, тым больш, што навет «мировые посредники перваго призыва» працавалі ў Горадзенскай губэрні не на карысьць мужыкоў. Усё-ж такі трэба адзначыць, што мужычая рэформа дала расійскаму ураду грунт для барацьбы з польскім паўстаньнем 1863 году.

У пачатку 1863 году ў Варшаве адбылася першая польская дэмонстрацыя проці расійскай імпэрыі і пачалося другое нацыянальна-палітычнае паўстаньне ў Польшчы. Паўстанскі рух быў і ў Горадзеншчыне. Пеяліся польскіе патрыятычные гымны, зьбіраліся групы паўстанцаў. Дзе-ня-дзе пачаліся ўзброеные напады палякоў на расійцаў. Напр., польская група Рагінскага ўзяла г. Пружаны, ўзяты былі і некаторые другіе гарады, як Кобрын, Бытэнь і г. д. Але усё-ж такі рух 1863 году быў слабейшы за рух 1831 году. Беларускіе



Віленскіе нэгоцыянты таргуюцца з засьцянковым шляхціцам лідзк. пав.

нізы да руху не прылучыліся. Мужыкі ня цікавіліся адраджэньнем Польшчы, бо Польшча у свой час не здаволіла іх эканамічна-соцыяльных жаданьняў. Пачалося крывавае „укрощение безпорядков“ вядомым добра Н. Мураўёвым і рух прыпыніўся.

У далейшые часы істнаваньня Расійскай імпэрыі Горадзеншчына жыве звычайным жыцьцём губэрні. З лёгкай рукі А. Тызэнгаўса ў Горадзеншчыне ідзе разьвітак фабрычна-заводзкай прамысловасьці. У 1896-м годзе ў губэрні было 3022 фабрыкаў і заводаў з вырабам на 7.545.216 руб. Першые месцы сярод фабрыкаў займалі суконные і картавые. У гэтым вырабе Горадзеншчына стаяла ніжэй толькі Маскоўскай губэрні. Найбольш гэтых фабрыкаў было ў Белымстоку. Першае месцо сярод заводаў займалі бравары і дражджавые заводы. Разьвітку гандлю у Горадзеншчыне дапамагалі водные, шасовые і жалезные дарогі, якіе тут рабіліся для стратэгічных мэтаў. Найбольш гандлявалі сукном і дзеравам; апошняе найчасьцей вывозілося за межы гаспадарства.

*Канец.* **У. Ігнатоўскі.**



# Музыка

## й яе гістарычная роля ў да-хрысьціянскую эпоху.

I.

Вялікі ангельскі вучоны Гэрбарт Спэнсар сказаў: „Ідэі не ўпраўляюць сьветам і ня звальваюць яго; сьвет упраўляецца пачуцьцямі, якім ідэі служаць толькі кіраўнікамі“.

Каб ведаць прычыны тых, ці іншых здарэньняў, трэба зьвярнуць увагу на пачуцьці, якіе ў той час захаплялі людзей. Пачуцьці, такім чынам, маюць вялікі ўплыў на агульнае усьведамленьне людзей і зьяўляюцца галоўным імпульсам у стварэньні розных мастацтваў, а, значыцца, і музыкі. Вось чаму музыка, маючая цесны зьвязак з іншымі галінамі духоўнай дзейнасьці, ёсьць адным з спосабаў даведацца аб людзкой душы, бо ў музыцы, як і ў усякім мастацтве, адбіваецца характар кожнага народу, кожнае эпохі.

У гісторыі культуры ўсяго чалавецтва наогул і кожнага народу паасобку яна іграе вялізарную ролю. Людзі даўно ўжо зразумелі гэта й заўсёды адносіліся да музыкі надта паважна. Не дарма-ж народные легэнды кажуць аб боскім пахаджэньні музыкі. Як сьведчаць грэцкіе міфы, Гэрмос выдумаў ліру і падараваў яе Аполёну. Платон*) прысвойвае музыцы моральна-выхаваўчую вагу. Арыстотэль**) кажа, што музыка мае ўплыў на характар людзей і ёю можна разьвіць тые, ці іншые моральные нахілы ў чалавеку, але ён, прызнаючы за музыкай моральна-выхаваўчу вагу, не адкідае, як Платон, яе вартасьці, як мастацтва. Досыць высока ставяць музыку Піфагор (584—504 да Н. Х.) і адзін з старэйшых пісьменьнікаў аб музыцы Арыстоксэн[1]). Спэнсар, называючы музыку „мовай душэўных перажываньняў“, кажэ, што яе, навет, можна параўнаць з мовай розуму. „Мастацтво ёсьць вялікшае праяўленьне магутнасьці ў чалавеку“, пісаў Леў Толстой. Выдатны расійскі кампазытар Л. Сакецьці сказаў, што „музыка павялічвае рэлігійнае пачуцьцё й дапамагае падняцьцю моральных сілаў грамадзянства“. „Музыка дапамагае ў фізычнай працы ня толькі рэгуляваньнем сілаў, але й павялічваньнем мускульнай энэргіі“ (Тарханаў[2]).

Музыка—старэйшая з усіх мастацтваў. У тым часе, калі людзі ня мелі ні архітэктуры, ні скульптуры, ні пісьменнасьці, ні малярства, музыка ў іх ужо была. Платон тлумачыць, што ў аснове музыкі ляжыць крык. З гэтым поглядам згаджаюцца й Тэн,[1]) і Спэнсар і Лётцэ[3]) ў працівагу тым, якіе, як, напрыклад, Люкрэцы[5]), бачаць пахаджэньне музыкі ў спробах чалавека насьледаваць голасам розные гукі прыроды. Але тлумачэньне Люкрэцыя не адпавядае фактам. Паводле фізыялёгічнага закону чалавек, усякае пачуцьцё стараецца выразіць жэстамі й гукамі. Разьвіваецца народ, набіраецца ў яго больш пачуцьцяў, настрояў; ўражаньні яго становяцца больш глыбокімі, моцнымі; разьвіваюцца тады й спосабы дзеля выяўленьня пачуцьцёў—і жэсты пераходзяць у міміку, а зыкі—ў сьпевы. На старавечнае пахаджэньне музыкі паказвае Сьвятое Пісаньне, якое спаміж людзей першых пакаленьняў успамінае Юбала: „ад якога вядуць свой род граючые на кіфары й арфе“.

Адкуль-жа даведаліся людзі аб старавечнай музыцы? Перш за ўсё аб ёй сьведчаць рэзьбы музыкальных інструмэнтаў, што захаваліся на старавечных помніках; потым, самые інструмэнты, знойдзеные пры раскопах і, нарэшце, весткі аб музыцы старавечных пісьменьнікаў. Але трэба адзначыць, што весткі гэтые далёка няпоўные, бо ўзораў самай музыкі амаль не захавалося, а якіе й дайшлі да нашых часаў, то з розных прычынаў яны ня могуць даць нам поўнага малюнку аб старавечнай музыцы.

У самых дзікіх, някультурных народаў ёсьць музыка.

Праўда, яна блізка, што ня мае тонаў і складаецца з шуму, але і у ёй ужо можна прыкмеціць пачатак мастацтва й некаторую рытмічную неаднастайнасьць. Потым з'яўляюцца сьпярша мэлёдыі, а за імі інструмэнты. Мэлёдыі гэтые складаюцца з двох-пяцёх тонаў; з інструмэнтаў ужываюцца так званые шумячые: кляшчоткі, даўбешкі, бубны. За шумячымі, рытмічнымі інструмэнтамі з'яўляюцца духавые—сьпярша дудка, даючая толькі адзін тон, потым некалькі дудак розная даўжыні, злучаных разам (так званая флейта-пана, маючая столькі тонаў, колькі ў ёй дудак) і нарэшце, дудка з дзірачкамі, даючая ўжо некалькі тонаў. Пазьней усіх зьяўляюцца струнные інструмэнты: арфа, скрыпка ды іншые.

*) Платон радзіўся у 430, ці 427, а памер у 348, ці 347 годзе да Н. Х. Жыў у Афінах.

**) Вялікі філёзоф Грэцыі; радзіўся у 384, а памер у 322 годзе да Н. Х.

[1]) Жыў у Афінах каля 350 году да Н. Х.

[2]) Расійскі фізіялег; Радзіўся у 1846 годзе.

[3]) Француcкі філёзоф і гісторык (1828—1893).

[4]) Нямецкі філёзоф (1817—1881).

[5]) Вялікі поэт старавечнага Рыму; радзіўся у 99 ці 95, а памер у 55, ці 51 годзе да Н. Х.

Цікава тое, што самые дзікіе народы прыдаюць музыцы нейкую асаблівую вагу й перш за ўсё ўжываюць яе ў рэлігійным кульце, а потым ужо ў розных урачыстых здарэньнях дзяржаўнага і хатняга жыцьця.

II.

Кітайцы надта добра разумелі тую ролю, якую музыка іграе ў выхаваньні і прыдавалі ёй вялікую моральную вагу. Напрыклад, багдыхан Шун, жыўшы за 2300 гадоў да Н. Х., гэтак казаў свайму музыцы Квею: „Вучы дзяцей вяльможных і клапаціся аб тым, каб яны былі справядлівы, лагодны і кемкі, дужы, але ня люты, вялі сябе з годнасьцю, але бяз гордасьці. Гэтые правілы выразі ў вершах і палажы на адпаведные мэлёдыі, каб можна было пеяць з акомпанімэнтам інструмэнтаў; музыка павінна йсьці ўсьлед сэнсу слоў; няхай яна будзе простая і натуральная; музыку-ж сумяцьлівую, пустую й расслабляючую трэба адкінуць; музыка ёсьць выраз душэўнага настрою».

Музыка, навет, мела сваёй мэтай навучаньне самых цароў: „У старавечные часы былі гэткіе ўстановы вялікаразумных цароў: песьняры, стоячы каля ўладароў пеялі датклівые, зласьлівые словы і агудзівалі; сьляпцы пеялі песьні і ганілі",—гэтак сказана ў ваднэй кітайскай кніжцы. Кітайцы казалі, што музыка памагае кіраваць дзяржавай. Багдыхан Канг-Хі зрабіў гэткае дабаўленьне к зборцы законаў: „Музыка мае здольнасьць успакойваць сэрцо; вось чаму й любіць яе мудрэц. Ен можа, забаўляючыся ёю, ў гэты самы час браць прымеры добрага кіраваньня, прыкладаючы з лёгкасьцю і непамыльна законы апошняга к музыцы". Найвялікшы кітайскі мудрэц, Канфуцы (Кун-фу-цзы), які жыў за 550 гадоў да Н. Х., казаў: „Калі хочаце ведаць, як дзяржава кіруецца і якая яе моральнасьць,—прыслухайцеся да яе музыкі".

Кітайцы бачаць нейкі зьвязак паміж тонамі свае гамы й вадой, агнём, дзеравам і інш, і прыдаюць кожнаму тону асобную сымболічную вагу, напрыклад: fa адзначае цара, sol—міністра і г. д.; 12 паўтонаў гамы адзначаюць 12 месяцаў году.

Музыка ў кітайцаў надта пашырана. Яе ўжываюць на вясельлях, хаўтурох. Без яе не абыходзяцца розные рэлігійные і урачыстые цэрэмоніі і працэсіі, ў часе якіх пяюць гымны пад акомпанімэнт інструмэнтаў. Яна—патрэбны элемэнт кітайскай драмы. Але, кажучы наогул, кітайцы глядзелі на музыку не як на мастацтво, а як на навуку, маючую дзяржаўную, моральна-выхаваўчую вагу, вось чаму яе з гэтага боку больш апрацоўвалі кітайскіе вучоные, чымсі з боку практычнага. Разьвіцьцё кітайскай музыкі, дасягнуўшы да значнай вышыні, дзякуючы консэрватыўнаму ладу дзяржаўнага жыцьця гэтага народу, спынілося і музыка кітайцаў ніколі ня мела вагі сапраўднага мастацтва.

Японцы ўжывалі музыку, як мастацтво, служачае пры кульце багоў, але музыка іх, навет, у нядаўніе часы знаходзілася ў пачатковым становішчы.

III.

У індыйцаў музыка, адбіўшая ў сабе дзьве характарные асобнасьці гэтага народу пачуцьцё і рэлігійна-фанатычны экстаз, іграе яшчэ большую ролю, чымсі ў кітайцаў. Па іх разуменьню, яна боскага пахаджэньня. Багі далі індыйцам тональнасьці і інструмэнты, як, напрыклад, жонка Брамы, Сарасваці, прынесла індыйцам на зямлю лепшы з іх інструмэнтаў—віну. Індыйскаму мудрацу Барата-Муні, стварыўшаму драму з музыкай, правілы для драмы даў сам Брама. На небе ўладжаваюцца драматычна-музыкальные прадстаўленьні гэніямі музыкі гандарвамі і іх жонкамі апсаразамі. „Ва ўсім сьвеце, навет, самым багом няма нічога прыямней музыкі", кажуць індыйцы. Яшчэ больш. Музыка—ня толькі боскага пахаджэньня. Яна мае вялікую цудоўную моц. Ей падлягаюць і людзі, і жывёлы і навет, бяздушная прырода. Яна можа выклікаць дождж, стварыць цемру і шмат якіх іншых цудаў. Музыка ў індыйцаў ужывалася ў набажэнстве прыпомачы так званага удукай-бубна; на вайне для падняцьця ваяўнічага духу; пры выслаўленьні цароў, у розных урачыстых працэсіях, драматычных прадстаўленьнях і г. д. Бубны: нагуар, там-там, доле—ужываліся на скоках баядэрак, а глухіе, сумные гукі „тарэ" (трамбона)—на хаўтурох. У самых старэйшых сьвятых кніжках індыйцаў—ведах—захаваліся гымны, пацеры багом і вайсковые песьні. Гэты народ, як і ўсе азіяцкіе народы зьвязвае музыку з рознымі космічнымі зʼявамі, плянэтамі, парамі году і г. д. У індыйцаў, як і ў кітайцаў, музыка не дасягнула да вышыні чыстага мастацтва.

(Канец будзе).

**А. Раманоўскі.**

---

# Тэатр на вёсцы.

(Гл. № 7—8.).

У Слуцкім павеце (ў Меншчыне) шыюць на спосаб жупаноў, сарафанаў. Вырэз сьпераду клінам ажно да стану, даўжынёй ніжэй стану на 1/4 аршына бяз скірдэляў, без рукавоў, усё з аднэй матэрыі; гарсэцік вольны, трохі да стану. Агульным кроем прыпамінае сэрбскую дзявочую верхнюю вопратку, толькі карацейшы. Таксама з цёмных каляровых матарʼялаў. З абрамоўкай анталяжамі або устужкай, з вышыўкамі на плячох, сьпераду і пры нізе ў багатых, а у бедных — аднатонны.



Рыс. 11.

Палескі гарсэцік. Шыецца з лёгкіх шоўкавых, надта сьветлых матарʼялаў. Падходзіць пад пахі і трымаецца на плячох перакінутай вузкай устужачкай,

або вышыўкай з мэрэжкі. Закладаецца пала на палу так, што шчыльна абкручвае стан; закладаецца за спадніцу. Матар'ялы з кветкамі. Стан падпаясваецца шалем з тонкай лёгкай матэрыі (цямнейшага колеру, як гарсэцік); ззаду канцы шаля зьвязваюцца багатай пекнай какардай (мятлікам), а доўгіе канцы шаля спускаюцца вольна на спадніцы да каленак. На грудзёх і на шыі ў палескім гарсэціку бывае ажуровы гафт (мэрэжка).

З а к л а д к а. Часам закладаецца выраз гарсэціка ад каўнера да стану цьвёрдай закладкай з матар'ялу з таго колеру, што і гарсэцік, багата золатам вышываны, узорам у кветкі—больш румянак або шыпель; гарсэт тады багата золатам вышываецца.

С п а д н і ц а. Шырокая, багата ззаду фалдаваная, сьпераду гладкавата, даўжыні такой, каб добра відаць было с-пад яе боцікі, ці лапці. Часам, калі хораша вытканы ніз кашулі, с-пад спадніцы яго відаць. Ніз спадніцы расходзіцца і робіцца з сьветлых узорыстых матар'ялаў у адзін або ў колькі колераў, ці ў кветкі з самадзелаў, усё надта яркае. Ніз спадніцы абрамоўваецца. Старые спадніцы белые з вытканым шляхам унізе. Могуць быць і суконные і аднатонные,—тады цямнейшых колераў, але заўсёды сьвятлейшых, як гарсэцік.

Ф а р т у ш о к. Белы з багата сатканым узорам больш як напалавіну ад нізу фартуха. Фартушок уверсе трохі сабраны ў складкі і трохі вузейшы, як унізе. Бывае падпяразаны пекным самадзяловым паяском, вузкім, ззаду завязаным мятлікам са спушчанамі ня надта доўгімі канцамі; закладаецца на спадніцу гарсэцік. Калі спадніца сьветлая, дык фартушок аднатонны, цёмны, з шырокай анталяжай унізе, і за ёй вышэй яшчэ адзін-два рады вузейшай анталяжы.

Х у с т а ч к і. Валасы чэшуцца гладка на два бакі, крыху надпушчаны над вушамі. На галаве заўсёды ясна-чырвоные хустачкі ў кветкі, завязаные каронай або зьвязаные ззаду пад канцом хустачкі. Бываюць і белые з чырвоным у вадным рагу дробным узорам; яго відаць зьверху галавы.

Замужніе кабеты носяць каптуры і наметкі. Каптуры робяць з тонкага сукна, фарбаванага дамовым спосабам, або з палатна з вушамі і ўстужкамі або бяз вушэй.

У з о р ы на гарсэціках, спадніцах, кашулях бываюць адразу вытканы, або часам нашываны.

К о л е р ы глаўные, якіе спатыкаем на Беларусі, гэта б е л ы, ш э р ы, ч о р н ы, ч ы р в о н ы (м а л і н а в ы), з я л ё н ы і іх тонацыі.

У ўзорах найбольш выкарыстаны крывулі, елка,—тые, што на паяскох, а з кветак—васількі, пэляргоніі, дурман, шылель, рожы" (рыс. 11).

### Разьдзел працы.

Як вы ужо супольнымі сіламі тэатральную салю зрабілі прыгоднай для спэктаклю, г. зн. пабудавалі сцэну, намалявалі дэкорацыі, павесілі заслону, прыгатавалі лямпы,—трэба ўжо думаць аб далейшай рабоце. Тэатр—гэта ёсьць праца вельмі складаная і вымагае, каб кожны ведаў, што яму трэба рабіць і каб сваю работу спаўняў акуратна, памятуючы аб кожнай драбніцы, якая да яго належыць. Усё павінна ісьці складна і згодна, як мэханізм гадзіньніка, бо абмылка аднэй асобы няраз адбіваецца на агульнай рабоце. Не ўзвалівайце на аднаго чалавека зашмат работы, думаючы, што ён усё вам зробіць, ні аб чым не забудзецца. Людзкіе сілы агранічаны і каб чалавек меў навет вельмі многа энэргіі, добрай волі,—у канцы канцоў сілы яго аслабнуць.

У тэатры, канечне, патрэбны разьдзел працы.

### АДМІНІСТРАТАР.

Адзін з вас, хто дзеля гэтага найздатнейшы, няхай займецца адміністратарскай работай. Работа гэта не малая. Трэба паклапаціцца, каб дастаць дазвол ад улады; пасьля трэба зрабіць білеты; трэба публіку паведаміць аб спэктаклі. Дзеля гэтага на ўсім сьвеце ўжываецца галоўным чынам адзін спосаб: друкуюцца афішы і расклеіваюцца на вуліцах. Калі няма ў вашым мястэчку друкарні, прыдзецца папрасіць кагосьці, хто мае рысункова-каліграфічные здольнасьці, каб рукой размалявау афішы, колькі іх патрэбна. Афішы трэба наклеіваць у відных мясцох там, дзе найбольш ходзіць публікі, напр., блізка царквы або касьцёла, пры коопэратыўнай краме, каля рынку і г. п. Там, дзе друкуецца якаясь часопісь, апрача гэтага паведамляюць публіку аб ладжаным спэктаклі, друкуючы аб гэтым абвестку ў гэтай часопісі.

Калі ўжо ў вас усё наладжано і прыбліжаецца дзень спэктаклю, адміністратар павінен заняцца наладжаньнем мясцоў для публікі (крэслы, або лаўкі). Калі на вашых білетах паказаны рад і нумар кожнага месца,—трэба не забывацца зрабіць тое самае і на лаўках, ці на крэслах, наклеіваючы на іх картачкі з нумарам месца, каб быў парадак, каб кожны з публікі займаў сваё месцо. Трэба паклапаціцца аб тым, каб купіць патрэбную колькасьць газы для лямпаў на салі, на сцэне і ў апранальнях артыстаў, трэба назначыць людзей для кантролю білетаў і г. д.

### РЭЖЫСЭР.

Але хіба найтруднейшые абавязкі—гэта абавязкі рэжысэра. На ім ляжыць уся моральная адказнасьць за ўдачу спэктаклю. Дзеля гэтага трэба на гэтае становішчо выбіраць чалавека з найбольшай знаёмасьцю тэатральнай справы, ды энэргічнага, якога ўсе будуць слухацца. Калі ў вас не зашмат мастацкіх сіл, дык рэжысэр аднач асна іграе адну з роляў у пьесе.

Пастараемся цяпер разглядзець паасобна ўсе абавязкі рэжысэра.

*(Працяг будзе).*

**Ф. Аляхновіч.**

---

**Чародны нумар „Руні" выйдзе 18 ліпня.**

---

*Рэдактар—ЯНКА ЛУЦЭВІЧ.*

*Выдавец—ВАЦЛАЎ ІВАНОЎСКІ.*

Калі Бог каго карае, то разум памяшае.
90. Ня рабі другому, што ня люба самому.
Вада ціха бераг мые.
Вада камень точыць.
Што ся правалоча, то яшчэ не ўцячэ.
Чым лупіна пасякне, тым век свой пахне.
95. Што цьвярозы на вуме мае, то пьяны усім баўтае.
Усе людзі рады чужымі рукамі жар заграбаць.
Баба з калёс, калёсам лягчэй.
Калі узяўся за гуж, дык не кажы што ня дуж.
За грахі моладасьці, карае Бог у старасьці.
100. Вучыся слухаць, каб умеў прыказаці.
Ад Міколы ня бойся зімы ніколі.
Да Юр'я сена і ў дурня, а калі есьць да Міколы,—ня бойся зімы ніколі.
За маё-ж жыто, да мяне-ж і пабіто.
Мужыку лето, як сьвятому рай.
105. Маў (меў) чорт нарадзіцца, да пявун засьпяваў.
Калі ў жыце мятліца,—хлеба палавіца.
Набожны, як сьв. Юр'я конь.
На Івана ноч адарвана.
На рахманага Бог нанясе, а сьмяливы сам набяжыць.
110. Нашаму парабку кумаў сват.
На Яна нажала, на Пятра напякла.
Удалося шчаняці воўка паняці.
Над сваім тварам усякі сабе панам.
Не да солі, калі граюць на басолі.
115. Ня жыві дабром, а жыві вумом.
Ня ўсё то слонцо, што глядзіць у ваконцо.
Прыдзе пара, будзе й трава.
Ня хваліся у сем днёў, а хваліся у сем гадоў.
Не чапай чужога, ня бойся нікога.
120. Не заўсёгды, як на дзяды.
Ня купіў бацька шапкі, няхай вушы мерзнуць.
Ня нашаму цяляці воўка спаймаці.
Ня пішы пяром, а пішы вумом.
Не па старасьці мруць, не па моладасьці жывуць.
125. Ня ткні носа у чужое просо.
Ні роду, ні плоду, як той камень у воду.
Ні туды, ні сюды, мае мілые дуды.
Нязнаўство й за грэх ня лічаць.
Ня чыні сьмердзе дабра і ня любі яго жонкі.
130. Насіў воўк, панеслі й воўка.
Ад прыбытку галава не баліць.
Не чапай ліха, няхай ліха сьпіць.
Пан з панам бьецца, а ў мужыка лоб трашчыць.
Хоць за вала, абы дома ня была.
135. Панская хвароба, а мужыцкае здароўе.

*(Канец будзе).*

Падаў Я. Лёсік.

# Свае і чужые жарты.

## Вільгэльм і Вільсон.

— Чаму так нічога цяпер ня чуваць аб Вільгельме і аб Вільсоне?

— Бо абодва абанкруціліся: адзін ваюючы, другі мірачы.



## У вярбункoвым аддзеле Беларускай вайсковай камісіі.

Ураднік вярбункавага аддзелу запісвае дзяцюка у беларускае войско. У гэты час уваліваецца з лямантам маці дзяцюка:

— А мае-ж паночкі! а мае-ж галубочкі! Ня пішэце яго у войско.

— Чаму?

— А як-жа — чаму? Гэткі сарві-галава! пойдзе ваеваць, забье каго-небудзь на вайне, а тады цягайся па судох ды сьледзтвах..



## Якая лепшая цяпер профэсыя.

Беларускі літаратар, бачачы як сторож беларускай вайсковай камісіі набівае сабе жывот белай булкай з салам, сказаў яму з вялікай зайздрасьцяй і сумам:

— Мой ты, Божухна! Я гэтак смашна паядаць ня маю за што...

— Бо трэ было ягомосьцю змалку—дзён чаго—небудзь парадачнага навучыцца, дык і меў-бы за што паядаць.



РЭДАКЦЫЯ: Менск, Кашарская 10, кв. 5.
Адчынена 10—11 г. зрана.

Рукапісы прысыланые для друку павінны быць напісаны чытэльна і з праудзівым прозьвішчам і адрэсам аутора. Рэдакцыя пакідае за сабой право папрауляць і скарочаваць рукапісы. Аплата прынятых рукапісау і малюнкау залежыць ад рэдакцыі. Рукапісы назад не выдаюцца. Малюнкі зьвяртаюцца уласьнікам, пасьля надрукаваньня у тыднөвіку.

АДМІНІСТРАЦЫЯ: Міцкевічава вул., Беларускі дом.
Адчынена 9—3 г. ўдзень.

ПАДПІСНАЯ ПЛАТА З ПЕРАСЫЛКАЙ:
на 1 м-ц—20 мк., на 3 м-цы—60 мк., на 6 м-цау—120 мк.
Цана аднаго сшытку 5 мк., падвойн. сш. у вокладцы—10 м.

ЦАНА АБВЕСТАК:
За радок пэтыту на першай стран.—10 мк., на 2 і 3 стр.—6 мк., на 4-й стр.—8 мк. Абвесткі друкуюцца на вокладцы і толькі пабеларуску.

З дазв. вайсков. цэнзуры. 4-7-1920 № 569.

Менск, Друкарня Я. Грынблята, Францішк. 32.